• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 3000 рублёў

11 ліпеня 1998 г. субота, № 139 (23490)

# ЗВЯЗДА



## ТВАЁ ЖЫЛЛЁ

# ДЗЯЦЕЙ І САСТАРЭЛЫХ АБАРОНЯЦЬ АД КВАТЭРНЫХ МАХІНАЦЫЙ

***Працэс куплі-продажу, абмену ці дарэння кватэры ўсё часцей прыцягвае рознага кшталту дзялкоў-прайдзісветаў, якія нярэдка з дапамогай сумніўных аперацый імкнуцца завалодаць такой жаданай жылой плошчай, пакінуўшы колішніх яе ўладальнікаў, як кажуць, і без грошай, і без даху над галавой. Асаблівай небяспецы ў такой сітуацыі падвяргаюцца або састарэлыя людзі, або тыя, хто моцна сябруе з «зялёным змеем». Небараку падманваюць, спойваюць, і ў выніку ён аказваецца на ўзбочыне жыцця. Самае жудаснае, што нярэдка ў такой сітуацыі церпяць таксама і ні ў чым не павінныя дзеці, якія спаўна разлічваюцца за памылкі дарослых. Каб неяк засцерагчы пэўныя катэгорыі грамадзян ад бяды, нядаўна Мінгарсавет зацвердзіў Палажэнне «Аб парадку адчужэння жылых памяшканняў, у якіх пражываюць няўдалыя сем'і, што выхоўваюць дзяцей, грамадзяне, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі, а таксама адзінокія састарэлыя грамадзяне». Аб сутнасці гэтага дакумента — наша гаворка са старшынёй гарсавета Уладзімірам ПАПКОЎСКІМ.***

**— Уладзімір Міхайлавіч, найперш, чым было выклікана з'яўленне гэтага палажэння?**

— Усе мы добра ведаем, што рабілася колькі часу таму ў Маскве, калі людзей падманвалі ў кватэрным пытанні. Даверлівыя грамадзяне, найперш з ліку састарэлых або п'яніц, траплялі на вуду прайдзісветаў, прадавалі за бесцань жыллё або потым прапівалі грошы, а іх жа ўласныя дзеці, не кажучы ўжо пра саміх гора-гаспадароў, аказваліся без прытулку. Канешне, у Мінску няма таго, што рабілася ў расійскай сталіцы, але падобныя выпадкі ўжо адзначаліся. Палажэнне прынята з мэтай прадухілення магчымых махінацый у гэтай галіне, якія могуць нанесці шкоду пэўным катэгорыям грамадзян.

**— Якія абмежаванні, звязаныя з кватэрным пытаннем, уводзіць у жыццё асобных гараджан гэты дакумент?**

— У адпаведнасці з Палажэннем, асобы, пералічаныя ў ім, не змогуць ажыццявіць адчужэнне жылых памяшканняў (продаж, дарэнне, абмен) без узгаднення са спецыяльнымі камісіямі ў раённых адміністрацыях горада. Органы ўнутраных спраў, сацыяльнай абароны і апекі, органы адукацыі і ЖЭСы будуць складаць спецыяльныя спісы грамадзян, якія падпадаюць пад дзеянне Палажэння, і перадаваць іх у бюро тэхнічнай інвентарызацыі, што займаюцца афармленнем усіх кватэрных пытанняў. Гэта павінна выключыць магчымыя махінацыі і абараніць дзяцей і састарэлых.

**— Уладзімір Міхайлавіч, а як гэта стасуецца з правамі чалавека? Хаця, безумоўна, я цалкам згодны, што пэўны кантроль у кватэрным пытанні, асабліва калі могуць пацярпець дзеці і састарэлыя, павінен быць...**

— Сапраўды, мы доўга над гэтым думалі, глядзелі, каб не было пярэчанняў заканадаўству. Па-першае, усе людзі, якія трапяць у спіс, будуць ведаць аб гэтым загадзя. Па-другое, калі яны ўсё ж пажадаюць ажыццявіць здзелку з кватэрай, трэба будзе атрымаць дазвол у раённай камісіі, якая ўважліва вывучыць усе магчымыя наступствы. Калі камісія не дасць дазволу, чалавек можа абскардзіць яе рашэнне і звярнуцца ў суд. Суд паставіць канчатковую кропку ў справе, зразумела, з улікам інтарэсаў, напрыклад, дзяцей.

**— А як быць састарэлым, якія нярэдка сёння завяшчаюць сваю кватэру нават абсалютна чужым людзям, якія згаджаюцца за гэта даглядаць іх да апошніх дзён жыцця?**

— У прынцыпе, Палажэнне не стане тут перашкодай, але дазвол павінны будуць даць зноў жа раённыя камісіі. Чалавека больш дасканала праверацць, і толькі калі будзе ўпэўненасць, што ён не падмане, не ашукае гаспадара кватэры, ён атрымае «дабро». Таму я не гаварыў бы аб парушэннях правоў чалавека, а назваў бы ўсе гэтыя захады словам процілеглым і па сэнсу — абаронай дзяцей і састарэлых.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**


Гл. 5-ю стар.

Выпускнікі крочаць далей.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## «Звязда» едзе ў Расоны

**15 і 16 ліпеня ў Расонах і Расонскім раёне будзе працаваць «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, Міністэрства сацыяльнай абароны і Міністэрства аховы здароўя.**

«Выязная прыёмная» пачне працаваць 15 ліпеня ў 15 гадзін у памяшканні гарадскога Дома культуры Расон. Таксама 15 ліпеня, але ўжо пачынаючы з 19 гадзін, сустрэчы з насельніцтвам пройдуць адначасова ў вёсках Забор'е і Дворышча. На наступны дзень, 16 ліпеня, з 8 гадзін раніцы ўдзельнікі «выязной прыёмнай» будуць знаходзіцца ў вёсках Краснаполле і Сяляўшчына. На сустрэчы запрашаюцца ўсе зацікаўленыя жыхары раёна. Спадзяёмся на шчырую і карысную размову.

## ВАКОЛ СКАНДАЛУ

# ХАКЕЙНЫ ТРЭНЕР АПАЗНАЎ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ Ў ЯГО СТРАЛЯЎ. АПОШНЯГА, ПРАЎДА ЯШЧЭ НЕ ЗЛАВІЛІ

**Больш за месяц прайшло з таго дня (нагадаем, што справа адбывалася ў ноч з 29 на 30 мая), калі на начной сталічнай дыскатэцы «Макс-шоу» стралялі ў трэнера беларускай хакейнай зборнай Міхаіла Захарава.**

«Звязда» ўважліва сочыць за падзеямі скандальнай справы, і сёння мы прапануем да ўвагі чытачоў некаторыя падрабязнасці той гісторыі, пакідаючы за сабой права да поўнага завяршэння следства не называць імёны і прозвішчы нашых інфарматараў.

...У той дзень, 29 мая, хакеісты беларускай зборнай правялі сваю апошнюю трэніроўку разам і, як гэта заведзена ў многіх замежных камандах (а бадай што ўсе нашы зборнікі там і гуляюць), было вырашана сабраціца і «не п'янства акаянага дзеля», а для з'яднання калектыву схадзіць куды-небудзь адпачыць. Спыніліся на начным клубе «Макс-шоу» — месца, здаецца, спакойнае, ды і патанцаваць можна. На ўваходзе ўсіх хакеістаў (як, дарэчы, і астатніх прысутных) дасканала абшукалі ахоўнікі на прадмет зброі і ўдаставерыўшыся, што такой няма, прапусцілі спартсменаў у залу. Далей усё было спакойна, хакеісты ціха-мірна адпачывалі і скажы хто-небудзь Міхаілу Захараву за некалькі хвілін да здарэння, што ў яго будуць страляць, той прыняў бы словы за ненармальны жарт — па сведчанню відавочцаў, Міхаіл Міхайлавіч ні з кім не сварыўся і таго мужчыну, які ў яго пасля стрэліў, толькі што бачыў убаку, як бачылі яго і іншыя сведкі. І ўсё ж-такі факт застаецца фактам, пад раніцу Міхаіла Захарава, які накіроўваўся з залы ў туалет, са словамі: «Сюрпрыз хочаш?» аклікнулі, пасля чаго адразу ж прагучаў стрэл.

Праз 12 хвілін пасля здарэння прыехала «хуткая дапамога», аднак у бальніцу трэнера адвезлі на сваёй машыне сябры. Бандыт тым часам, выстраліўшы яшчэ і ў ахоўніка дыскатэкі, нечакана «растварыўся», хоць, трэба сказаць, як гэта ён зрабіў, заставалася загадкай, бо народу ў той час было ўжо не так і шмат і да таго ж узнікала рэзоннае пытанне, як ён змог пранесці на дыскатэку зброю. Адказ, магчыма, крыўся ў асобе самога страляючага. Як нам дакладна вядома, да справы падключыліся спецслужбы, асоба страляючага была ўстаноўлена. Па папярэдніх даных, гэта адзін з членаў злачыннай групоўкі, якая кантралюе «Макс-шоу», і зараз ён знаходзіцца ў вышуку. А вось чаму ён страляў у Захарава, да гэтага часу застаецца незразумелым.

Сёння Міхаіл Захараў ужо выпісаўся з бальніцы (дарэчы, прыязджаў праведаць свайго сябра і знакаміты варатар Уладзіслаў Траццяк) і зараз павінен дзякаваць Богу і хірургу Ігару Міхайлавічу Ладуцьку за тое, што ўсё абышлося. У трэнера аказаліся моцныя косці, і куля, зрыкашэціўшы, удала прайшла навылёт, а не патрапіла ў пячонку. Хоць, зрэшты, Міхаіла Міхайлавіча і нагул можна лічыць чалавекам, які «нарадзіўся ў кашулі». У 1987 годзе ён пабываў у аўтамабільнай катастрофе, а крыху пазней, калі гуляў за адзін з амерыканскіх клубаў, шайба патрапіла Міхаілу Захараву ў галаву, і спартсмену рабілі аперацыю. На шчасце, усё абышлося, як тады, так і зараз. Доўга жыць будзеце, Міхаіл Міхайлавіч, чаго мы вам шчыра і жадаем.

**Алесь НАЗАРАЎ.**

## КРЫМІНАЛ

# НЕ БЯДНЕЕ КРАІНА НА АСТАПАЎ...

**Не, не перавяліся яшчэ ў нас астапы бендэры, якія да чатырохсот і аднаго спосабаў здабывання грошай пастаянна дабаўляюць штосьці сваё, новае.**

Вось свежы прыклад. Нейкі грамадзянін Д. па даверанасці прадстаўніка адной з камерцыйных фірмаў атрымаў на адкрытым акцыянерным таварыстве «Бабруйскі гарбарны камбінат» больш як 250 пар абутку. Здабыча была тут жа з поспехам рэалізавана за межамі рэспублікі, а выручка — каля 60 мільёнаў рублёў — пакладзена ва ўласную кішэню. Аднак нядоўга радаваўся прадпрымальны махляр. Аператыўнымі супрацоўнікамі міліцыі Магілёўскай вобласці ўзбуджана супраць яго крымінальная справа.

А вось 25-гадовы рабочы аднаго з мінскіх заводаў не стаў вельмі напружваць свае мазгі і выдумляць нешта новае. Ён проста ўзяў паляўнічае ружжо (дарэчы, незарэгістраванае), зайшоў у казіно «Адмірал», размешчанае на вуліцы Харужай у Мінску, і пачаў патрабаваць грошы. Глыбока ўражаныя супрацоўнікі казіно і яго ахова спачатку анямелі ад такога нахабства, але затым, апамятаўшыся, далі добры адпор аматару лёгкай нажывы. Кінуўшы зброю, ён спрабаваў уцячы з месца злачынства, але праз дзесяць хвілін быў затрыманы нарадам патрульна-паставой службы Савецкага РАУС на суседняй вуліцы Куйбышава.

**Антон ЗАПОЛЬСКІ.**

## УСМІХНЁМСЯ!



Вымушаны прыпынак каля Браслава.
Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*— Дарагі, — пытаецца жонка ў мужа, — гэта ты навучыў нашага папугая нецэнзурным словам?*

*— Не, каханая, я, наадварот, тлумачыў яму, якія словы нельга вымаўляць.*

***

*На дыскатэцы.*

*— Дзяўчына, вялікі вам дзякуй за танец!*

*— Які танец?! Я проста спрабавала праціснуцца да гардэроба.*

***

*— У нашай сям'і ўсё робіцца так, як хоча жонка, — кажа мужчына прыяцелю.*

*— Дык што ж ты не можаш стукнуць кулаком па стале?*

*— Чаму не магу? Але як ты думаеш, адкуль у мяне гэты сіняк вад вокам?*




Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 10 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 50000 | 53500 | 27700 | 29700 | 8000 | 8800 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 50000 | 54000 | 27300 | 29500 | 8000 | 8600 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 50000 | 55000 | 27300 | 30000 | 8000 | 8800 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 38710.00 | | 21168.04 | | 6200.00 | | Курс на 11.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2090 | | 3.4219 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 69500 | 71500 | 38049 | 39154,48 | 11127 | 11451 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 63000 | 63500 | 34400 | 34900 | 9900 | 10400 | |

# КАМІСІЯ ПАВІННА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ АБІТУРЫЕНТАМ АДНОЛЬКАВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

**Зацверджаны састаў дзяржаўнай камісіі для ажыццяўлення кантролю за работай прыёмных камісій і правядзеннем уступных экзаменаў. У адпаведнасці з указам кіраўніка дзяржавы ад 29 чэрвеня № 345, старшынёй камісіі з'яўляецца Мікалай Дамашкевіч — старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю, яго намеснікам — Уладзімір Русакевіч — першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. У саставе камісіі кіраўнікі і супрацоўнікі цэнтральных і мясцовых органаў кіравання, вядучыя навукова-педагагічныя работнікі. Прэзідэнт зацвердзіў таксама Палажэнне аб дзяржаўнай камісіі — нарматыўна-прававы акт, які зацвярджае яе паўнамоцтвы, парадак утварэння, рэарганізацыі і ліквідацыі.**

Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба кіраўніка дзяржавы, пры фарміраванні камісіі ўлічаны вопыт і ўрокі грамадска-дзяржаўнага кантролю за ўступнымі экзаменамі мінулых гадоў. Галоўная сацыяльна-палітычная задача камісіі — забеспячэнне аднолькавых магчымасцяў абітурыентам пры паступленні ў дзяржаўныя вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, абарона іх правоў і законных інтарэсаў.

Члены камісіі маюць шырокія паўнамоцтвы. У прыватнасці, яны маюць права прымаць неабходныя меры па ліквідацыі недахопаў у рабоце прыёмных камісій і службовых асоб, забяспечваць няўхільнае выкананне ўстаноўленых правілаў прыёму грамадзян у навучальныя ўстановы, папярэджваць парушэнні законных правоў і інтарэсаў абітурыентаў. Члены камісіі могуць прапаноўваць (рэкамендаваць) адміністрацыі навучальнай установы меры адказнасці да членаў прыёмнай камісіі за парушэнні дысцыпліны, арганізаванасці і законнасці, знаёміцца з асабістымі справамі абітурыентаў, прысутнічаць на ўступных экзаменах, пасяджэннях прыёмных камісій, сходах і кансультацыях абітурыентаў. Яны маюць права вывучаць думку абітурыентаў, іх бацькоў і грамадскасці па пытаннях арганізацыі і правядзення ўступных экзаменаў у мэтах павышэння эфектыўнасці кантрольнай дзейнасці, своечасова даводзіць да ведама прыёмнай камісіі і адміністрацыі навучальнай установы інфармацыйна-кантрольныя матэрыялы, якія патрабуюць аператыўнага рэагавання, ажыццяўляць аналітычны разбор канфліктных сітуацый, зваротаў абітурыентаў і іх бацькоў. Члены камісіі могуць ініцыіраваць незалежную экспертызу правераных пісьмовых экзаменацыйных работ, калі для гэтага ёсць важкія прычыны, каардынаваць дзейнасць прыёмнай камісіі канкрэтнай навучальнай установы з грамадскімі фарміраваннямі, якія ажыццяўляюць кантроль за выкананнем устаноўленых правілаў правядзення ўступных экзаменаў. Ім прадастаўлена права размяркоўваць экзаменатараў па групах абітурыентаў у дзень правядзення экзаменаў, шыфраваць пісьмовыя экзаменацыйныя работы, разглядаць апеляцыі, скаргі і заявы абітурыентаў.

Кіраўнікам камісіі прадпісана аператыўна інфармаваць кіраўніка дзяржавы аб выяўленых недахопах у арганізацыі ўступных экзаменаў, аб парушэнні правоў і інтарэсаў абітурыентаў.

7 ліпеня Уладзімір Русакевіч правёў пасяджэнне інфармацыйна-аналітычнай групы гэтага кантрольнага органа. Заслухана паведамленне першага намесніка міністра адукацыі Барыса Хрусталёва. Вызначаны задачы і асноўныя напрамкі дзейнасці гэтай групы. Яе членам рэкамендавана сканцэнтраваць намаганні на вывучэнні дзеючай сістэмы арганізацыі ўступных экзаменаў, вартасцяў і недахопаў нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі, крытэрыяў ацэнкі экзаменатарамі здольнасцяў і ведаў абітурыентаў. Група прадставіць кіраўніцтву камісіі заключэнне аб думцы абітурыентаў па пытаннях правядзення экзаменаў у кожнай навучальнай установе, характары апеляцый, скаргаў і заяў, рэагаванні прыёмных камісій на выяўленыя парушэнні ўстаноўленых правілаў.

Ва ўсіх навучальных установах будуць арганізаваны пастаянна дзеючыя тэлефонныя лініі «Абітурыент-98» з тым, каб забяспечыць аператыўны разгляд зваротаў, заяў і апеляцый. Дзякуючы гэтаму кожны абітурыент будзе мець рэальныя магчымасці пагутарыць з прадстаўнікамі адміністрацый навучальных устаноў і членамі дзяржаўнай камісіі.

**По пытаннях работы прыёмных камісій можна звяртацца ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў, Камітэт дзяржаўнага кантролю і Міністэрства адукацыі. Тэлефоны: 222-39-07; 222-69-03; 222-29-23; 220-31-37.**

**БЕЛТА.**

# РАЗБУРЭННІ ЁСЦЬ, АЛЕ СТРАХОЎКІ — ТАКСАМА

**Толькі за мінулы чэрвень з-за неспрыяльных умоў надвор'я ў Беларусі было пашкоджана каля 2,2 тысячы розных пабудоў, уладальнікі якіх атрымалі страхоўкі на агульную суму 2,7 млрд. рублёў — аб гэтым паведаміў на праведзенай прэс-канферэнцыі генеральны дырэктар Белдзяржстраха Віктар Шуст.**

Сапраўды, прэзідэнцкі ўказ, што ўвёў з 1 студзеня гэтага года абавязковае страхаванне пабудоў, якія належаць грамадзянам, быў успрыняты даволі неадназначна, аднак, на думку В. Шуста, менавіта зараз ёсць упэўненасць у тым, што мінулагодняя сітуацыя, калі пасля стыхійных бедстваў значная частка пацярпелага насельніцтва засталася без страхавых кампенсацый, ужо не паўторыцца. Усяго з пачатку 1998 года гэты від страхоўкі ў краіне атрымалі каля 3,5 тыс. чалавек, большасць з якіх пражываюць у сельскай мясцовасці. Дарэчы, як было паведамлена кіраўніком Белдзяржстраха, сярэдняя ацэначная страхавая сума на адну гаспадарку складае прыкладна 97 млн. рублёў, тады як сярэдні страхавы ўзнос — 290 тысяч.

**Сяргей ГРЫБ.**

# МЫТНЫ КАМІТЭТ ПАТРАБУЕ АД «БДГ» АБВЯРЖЭННЯ

**Абвяржэння звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, запатрабаваў ад рэдакцыі «Белорусской деловой газеты» Дзяржаўны мытны камітэт рэспублікі.**

Як паведаміў БЕЛТА намеснік старшыні камітэта Уладзімір Гошын, 9 ліпеня гэтага года гэта выданне апублікавала артыкул «ДМК дае дабро». У ім гаворыцца аб тым, быццам бы з 15 ліпеня ў нашай краіне ўводзяцца «новыя правілы перамяшчэння праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь некамерцыйных тавараў» і «адзіныя стаўкі мытных пошлін і падаткаў, што прымяняюцца ў адносінах да легкавых аўтамабіляў». Гэтыя звесткі, заяўляюць мытнікі, няправільныя і не адпавядаюць афіцыйнаму пункту гледжання камітэта па гэтаму пытанню. Закранаючы інтарэсы шырокага кола грамадзян, яны садзейнічаюць стварэнню нервовай абстаноўкі, неабгрунтавана прыводзяць да шматлікіх зваротаў людзей ва ўладныя структуры і мытныя органы, што ўскладняе іх работу.

**БЕЛТА.**



Яўген ПЯСЕЦКІ

**Як ішоў Беларус — то пыталіся звеку: «А хто там?»
Як стагнаў Беларус — то нікому пачуць не было.
Сцягам зваўся абрус, ды з крывёю пабітай галоты
Лёсам зваўся хаўрус, што душыў, як ліхое сіло.
Яны ў стоме сышлі, пад чужымі нябёсамі чуюць
Неусцешную песню пра далёкі, пакінуты край —
То вятрыска пяе, як у выраі птушкі жалкуюць,
Вецер вольна гуляе па свеце — трымай не трымай.
На чужых авеню, між чужынскіх багоў і прастолаў
Купяць сціплы букет — і на сэрцы... Лепш тое не чуць!
То валошкі шапочуць на далёкім радзіміцкім полі,
Ля забытых кастрышчаў валошкі цвітуць.**

*Галіна ЗНОСЕНКА:*

# «БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ШКОЛА НЕ ПАВІННА АДЧУВАЦЬ НЕДАХОПУ ПАДРУЧНІКАЎ...»

***Ці не галоўнай установай краіны, якая нясе зараз адказнасць за падручнікі, з'яўляецца Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання. З яго дырэктарам Галінай ЗНОСЕНКА і гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Скажыце, калі ласка, на ваш асабісты погляд, ці адчуваюцца ў апошнія гады складанасці з забеспячэннем школ краіны падручнікамі? Калі так, то ў чым гэтыя складанасці выяўляюцца?**

— У СССР падручнікі выдаваліся школьнікам бясплатна. Непасрэдна ў школьных бібліятэках былі створаны спецыяльныя фонды. Кожны падручнік у такім разе служыў 4-5 гадоў. Не трэба было штогод друкаваць велізарныя тыражы. Не трэба было пасля перапрацоўваць горы яшчэ прыстойных з вонку кніг у макулатуру. Словам, дзякуючы такому рашэнню прымаліся меры для абароны вытворчасці. З часам у школьных бібліятэках назбіралася да 1000 назваў падручнікаў. Гэтай колькасцю, зразумела, ніводзін вучань за ўсе гады навучання не карыстаецца. А справа ў тым, што ёсць варыятыўныя падручнікі — па фізіцы, матэматыцы і г.д. Раней 80 працэнтаў падручнікаў завозілася з Масквы... Зараз (акрамя падручнікаў па замежнай мове) да 7 класа Рэспубліка Беларусь мае ўсе свае камплекты.

**— Што датычыць фінансавання, то ці не становіцца яно тормазам у забеспячэнні школ падручнікамі?**

— Зрываў навучальнага працэсу па прычыне адсутнасці падручнікаў не будзе. Сёлета, між іншым, дзяржава выдае 270 найменняў падручнікаў. І яшчэ 80 закупляем у Расіі. Графік фінансавання вытрымліваецца. Выдавецтвы таксама свае абавязкі перад цэнтрам, перад Міністэрствам адукацыі як дзяржаўным заказчыкам выконваюць. Згодна з графікам і адпраўляем падручнікі ў школы. Дарэчы, камплект з 1 па 11 класы складаў сёлета, прыкладам, 93 кнігі.

**— Відаць, некаторыя праблемы выклікае пераход да 12-гадовай сістэмы навучання ў агульнаадукацыйнай школе?**

— Я б так не сказала. Фактычна праблемы ўзніклі толькі з падрыхтоўчым і першым класамі. Але істотна на час выдання і прыбыцця падручнікаў у школу гэта не паўплывае.

**— Ці ўзнікаюць праблемы з насычэннем школы беларускамоўнымі падручнікамі?**

— Беларускамоўная школа не павінна адчуваць недахопу падручнікаў. Усё выдаецца на дзвюх мовах і ў дастатковай колькасці. Хутчэй можа здарыцца так, што не хопіць расійскіх падручнікаў, якія мы завозім. Праблемы, праўда, могуць узнікнуць вось якога плана (асабліва ў месцах, куды прыязджаюць перасяленцы з чарнобыльскіх раёнаў). Ёсць малакамплектныя школы, дзе ў кожным з класаў ад 5 да 15 вучняў. І, канешне ж, новыя падручнікі паступаюць туды выключна па меры неабходнасці. Існуючы фонд тых кніг, якімі ўжо карысталіся, досыць невялікі. І не выключана, што ў тым выпадку, калі ў такую школу прыйшлі некалькі новых вучняў, магчыма, нават у сярэдзіне навучальнага года, могуць узнікнуць праблемы. Але ж існуе правіла, якое павінны выканаць на ўзроўні раённага аддзела адукацыі, — вучань павінен быць забяспечаны падручнікамі на працягу аднаго тыдня.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ФЕСТЫВАЛІ*

# ЧАС ЦВІСЦІ «ВАСІЛЬКАМ»

«Залаты певень», які быў сімвалам і прызом конкурсу маладых выканаўцаў «Славянскіх базараў» мінулых гадоў, адспяваў сваю песню у Віцебску. Прынамсі, да «Славянскага базара ў Віцебску», які адкрыецца 22 ліпеня, мастак Юрый Рудэнка распрацаваў новы прыз — статуэтку з рознай колькасцю васількоў, у залежнасці ад занятага месца. А ўжо вядомы ўсім «певень» застаўся разам з Сяргеем Віннікавым, які прадстаўляў арганізатараў з расійскага боку. Вось ужо амаль год, як бакі разышліся, пры гэтым кожны з іх захацеў наладзіць свой «Базар»: Віннікаў — у Адэсе і Саратаве, а Віцебская дырэкцыя фестываляў па-ранейшаму адстойвала права правядзення фестываля у сваім горадзе. Сказана — зроблена.

***Радзіон БАС, старшыня Віцебскай дырэкцыі фестываляў:***

*« Мы апошні раз адчувалі, што кампаньён з Расіі нешта задумвае. Адчулі гэта ў Маскве на святкаванні 850-годдзя, калі Віннікаў са сцэны падчас канцэрту «Славянскі свет вітае Маскву» абвясціў, што такім чынам прайшоў сёмы фестываль. Потым ён жа вырашыў, што фестываль стане пераязным. Чаму гэта адзін чалавек павінен вырашаць, калі і дзе адбудзецца «Славянскі базар», у якога ёсць і іншыя сузаснавальнікі? Мы разышліся, але знайшлі разуменне ў міністэрствах культуры Расіі і Украіны. Сёлета фестываль фінансіруецца з бюджэту Саюзу Беларусі і Расіі, і магу сказаць, што яшчэ ніколі мы не знаходзілі такога разумення... Між іншым «Славянскі базар у Віцебску» атрымаў прапанову ад Арманда Марэна, прэзідэнта ФІДОФ, стаць членамі гэтай арганізацыі.*

Замест Сяргея Віннікава камандай расіян кіруе Ігар Круты. Ужо вядомыя ўдзельнікі конкурсу. Беларусь сёлета будуць прадстаўляць пераможца «Зорнай ростані» Вікторыя Дземянчук і салістка Маладзёжнага тэатра эстрады Вольга Уронская. Зацверджаны склад журы. Агульная колькасць артыстаў, якія прымуць удзел у фестывальных праграмах, — каля 4,5 тысячы чалавек. Упершыню Расійскае тэлебачанне будзе трансліраваць нацыянальныя дні трох краін, а Беларускае тэлебачанне будзе асвятляць падзеі найбольш падрабязна.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*ПОГЛЯД*

# ПЫТАННЯЎ БОЛЬШ, ЧЫМ АДКАЗАЎ

**Бадай, за апошні час ніводнай арганізацыі, прадпрыемству, установе, не кажучы пра камерцыйную структуру, у прэсе не ўдзялялася столькі ўвагі, як вытворча-камерцыйнай фірме «Белнацыяналсервіс» і яе генеральнаму дырэктару Ігару Клюеву, які адначасова з'яўляецца і кіраўніком Беларускага грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў «За сацыяльную справядлівасць».**

У многіх рэспубліканскіх выданнях на гэты конт часта з'яўляліся публікацыі, нярэдка дыяметральна процілеглага зместу. Нарэшце, ужо сёлета вядучыя рэспубліканскія газеты змясцілі матэрыял па выніках праверкі фірмы Камітэтам дзяржкантролю, дзе, што называецца, добра-такі выдалі і самой фірме, і яе кіраўніку. Аднак на гэтым справа не скончылася. Па распараджэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 сакавіка была створана міжведамасная рабочая група па яшчэ адной праверцы як дзейнасці самой фірмы, так і па выкананню Указа Прэзідэнта ад 23 кастрычніка 1996 года «Аб ініцыятыве Беларускага грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў «За сацыяльную справядлівасць».

І вось у рэдакцыю «Звязды», як, дарэчы, і ў шэраг іншых рэспубліканскіх выданняў, прыйшло запрашэнне ад старшыні праўлення БГАПУ «За сацыяльную справядлівасць» І. Клюева прыняць удзел у прэс-канферэнцыі па выніках работы міжведамаснай рабочай групы, створанай вышэйпамянёным рашэннем прэзідэнта. І такая прэс-канферэнцыя адбылася.

Старшыня праўлення Беларускага грамадскага аб'яднання пацярпелых укладчыкаў «За сацыяльную справядлівасць» Ігар Клюеў азнаёміў прысутных журналістаў са зместам, як ён сказаў, дакладной запіскі на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Спасылаючыся на вынікі праверкі, ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што «праваахоўнымі органамі якіх-небудзь парушэнняў дзеючага заканадаўства з боку ВКП «Белнацыяналсервіс» і яго генеральнага дырэктара, якія маглі б з'явіцца падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы, не выяўлена». Больш таго, зазначыў ён далей, як сведчаць высновы той жа міжведамаснай рабочай групы, «нягледзячы на ўзнікшыя складанасці пры правядзенні бартэрных аперацый з удзелам ВКП «Белнацыяналсервіс», Магілёўскага ВА «Хімвалакно», славацкага АТ «Інтэрфранц» і БРВП «Фармацыя» Міністэрства аховы здароўя, якія ажыццяўляюцца згодна з заключаным паміж імі дагаворам, у Рэспубліку Беларусь за перыяд іх супрацоўніцтва без дадатковага прыцягнення валютных сродкаў увезена медыкаментаў на суму 4,7 мільёна долараў ЗША, БГАПУ «За сацыяльную справядлівасць» пералічана каля 1 мільярда рублёў, у выніку больш як 2000 чалавек атрымалі поўную або частковую кампенсацыю страчаных укладаў. На прэс-канферэнцыі прагучала і заява аб тым, што членамі міжведамаснай рабочай групы С. Есіным і В. Цэдрык выказана асобая думка, якая зводзіцца да таго, што «ў выніку знешнеэканамічнай дзейнасці ВКП «Белнацыяналсервіс» дзяржаве нанесены матэрыяльныя страты на суму 210,8 тысячы долараў ЗША». Гэта пацвердзіла ў тэлефоннай размове і сама Вольга Цэдрык. Дык каму ж верыць? Праўда, як вядома, адна. Вось і атрымліваецца, што пытанняў тут больш чым адказаў.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

# ГАСЦЁЎНЯ

## НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## ЛІПЕНЬ

**12/29. Пятро (Пятроў дзень, Пятро-Павел, Пятрок, Пятра)** — старадаўняе земляробчае свята, па сутнасці, завяршэнне Купалля. Селянін заўважаў: «Святы Пятро — у жыце ядро», «Калі высыплецца ячмень, зязюля падавіцца зернем і больш не кукуе». Вядома, што зязюля куе ад Магдалены да Пятра ці Купалы, калі і заканчваюцца гулянні моладзі. На Брэстчыне спяваюць:

*Да Пятра зязюльцы кукаваці,*
*Да восені дзеваньцы пагуляці.*
*Пятро пройдзе —*
*зязюля ў вырай пойдзе,*
*Восень прыйдзе —*
*дзеванька замуж выйдзе...*

Дзяўчаты хадзілі ў лес «развіваць вянкі», якія былі «завіты» імі на Сёмуху, «кумаваліся» (выбіралі сяброўку на год). Палілі кастры, елі абрадавыя стравы, гушкаліся на арэлях, спявалі пятроўскія песні.

Лічылася, што пасля Пятра лета ідзе на спад. «Прыйшоў Пятрок, апаў лісток». Заканчваўся Пятроў пост.

Пра Пятра і Паўла таксама хадзіла нямала легендаў і казак, у якіх святыя паказваюцца ў выглядзе простых сялян («Як Мікола і Пётр лашадзей на Украіне закуплялі», «Святы Пётра і скупая баба», «Як кулак зрабіў дзень доўгім» і інш.). Гэта гаворыць аб папулярнасці першавярхоўных апосталаў, якія не былі звязаны адзін з адным у жыцці, але былі пакараны ў адзін дзень, як самааддданыя праведнікі Хрыста, па загаду імператара Нерона каля 67 года. На хрысціянскіх абразах іх часта паказваюць разам, а ў народным календары яны наогул зліліся ў адзін вобраз («Пятро-Павел»).

**13/30. Паўпятро (Паўлюк, Павел)** — дзень талакі.

Пасля Пятровага дня не дазвалялася працаваць («грэх»), можна было толькі дапамагаць іншым, але не за плату, а за пачастунак. Нават наймалі музыкаў. Пятроўская талака адлюстравана ў песнях: «А што ў полі шуміць, гудзе? Шуміць, гудзе. Там талака дамоў ідзе...», «Святы Пётра талаку збіраў копы сена вадзіць, стагі мятаць».

**Сымон і Юда.** Сімон і Іуда, двое з дванаццаці апосталаў дня, якіх вылучыў народ і замацаваў у выслоўі: «На Сымона і Юды конь баіцца груды».

**14/1. Кузьма і Дзяміян (Касьма і Даміан)** — свята кавалёў. «У дзень святога Касьмы і Даміяна кузні не куюць і бабы не п'юць». Песню «Кузьма» спявалі тым, хто вянчаецца першы раз (не выконвалі ўдовам і ўдаўцам):

*Скуй нам свадзебку,*
*Свадзебку крэпкую,*
*Даўгавечную,*
*На векі неразлушную...*

Кузьма і Дзям'ян вядомы і як апекуны земляробства. «Кузьма сярпы згубіў, ідзя згубіў», «На Кузьму і Дзям'яна касіць не рана», «Святы Пятро жыта спеліць, святы Кузьма сярпы робіць, а святы Дзям'ян сена грабіць».

У легендзе «Кузьма-Дзям'ян», зафіксаванай Е. Раманавым у Гомельскім павеце, распавядаецца пра галоўных герояў, што змагаліся з ненажэрнай змяёй, як пра кавалёў, так і пра земляробаў. Царкоўная ж гісторыя сведчыць пра пакутнікаў бяссрэбранікаў Касьму і Даміяна як пра лекараў, што дапамагалі людзям без платы, прапагандуючы ім Хрыста. І былі забітыя з зайздрасці ў 248 годзе іх вучнем-лекарам.

**17/4. Андрэй (Андрэй Наліва)** — адзін з апекуноў земляробства, пра яго пяецца:

*Трэці празнік — святы Андрэй,*
*Святы Андрэй, за ўсіх мудрэй,*
*Саху ладзіць, каня гладзіць...*

Да Андрэя завяршаўся працэс выспявання жыта. Аб гэтым народная мудрасць сцвярджае: «На Андрэя азімыя наліліся, а татка-авёс да палавіны дарос», «Авёс у світцы, а на грэчцы і кашулі няма», «Зерне ў каласку, не валяйся ў халадку».

Хрысціянскі каляндар адзначае ў гэты дзень адразу трох Андрэяў: свяціцеля Андрэя, архіепіскапа Крыцкага (712—726 гг.), дабравернага вялікага князя Андрэя Багалюбскага (1174 г.) і прападобнага Андрэя Рублёва, іканапісца (XV ст.).

**18/5. Свята месяца, лампады.** У ім, як сцвярджаў А. Кіркор, ёсць рэшткі культу Велеса — «бога статка, апекуна пастухоў».

Як вынікае з іншых крыніц, у гэты дзень вечарам выходзілі людзі глядзець, як «гуляе месяц» (поўня). Па яго змяненнях, колеру прадказвалі будучы ўраджай.

**Алесь ЛОЗКА.**

**Дырыжор Аляксандр Анісімаў у Мінску на пачатку лета «засвяціўся» некалькі разоў — былі дзве прэм'еры (балет «Жар-птушка» і опера «Барыс Гадуноў») , дзе ён дырыжыраваў, а таксама адзін канцэрт у оперным тэатры. Бо ў аркестры опернага тэатра Анісімаў па-ранейшаму гаспадар, хаця дастаткова вольна адчувае сябе ў Еўропе, дзе апошнім часам шмат працуе. Часцей ездзіць давodзіцца у межах трохвугольніка Дублін—Парыж—Мінск. У Аляксандра Анісімава пастаянны кантракт з аркестрам нацыянальнай філармоніі Ірландыі, у Парыжы вучыцца сын, а разам з ім жыве і мама. І калі ўлічыць узрастаючую папулярнасць дырыжора на Захадзе, то нам нічога не застаецца, як навучыцца прымаць падарункі ў выглядзе яго з'яўленняў перад мінскай публікай.**



**Сам жа дырыжор у сваёй творчай кар'еры вылучае канцэрт з Мансерат Кабалье ў Крамлі, пасля якога яго пачалі пазнаваць на радзіме. І выступленне разам з Растраповічам, якое падняло яго рэйтынг за мяжой. Але былі і іншыя, не менш цікавыя. Зараз, напрыклад, на папулярнасць (ізноў жа за межамі) вельмі ўплываюць запісы на дысках разам з рознымі калектывамі і рэцэнзіі на іх у прэсе. Натуральна, сусветны падыход да справы. А наша публіка паважае дырыжора за працу ў аркестры опернага тэатра.**

# ДВА АЛЯКСАНДРЫ АНІСІМАВЫ Ў АДНОЙ МУЗЫЦЫ

**— КАНЦЭРТЫ з серыі «Маэстра Анісімаў запрашае» адбываюцца не вельмі часта. Гэта звязана з тым, што ў Вас шмат работы за межамі Мінска, ці наўмысна «вытрымліваеце» публіку, зрэдку ладзячы свой бенефіс?**

— Гэта цыкл канцэртаў, які мы задумалі гады тры таму. Магчыма, можна гэта назваць бенефісам — але тады варта паразважаць: хто ёсць дырыжор за пультам? І калі ідзе, напрыклад, балетны спектакль, гэта бенефіс харэографа, ці бенефіс балерыны, ці бенефіс кампазітара, які напісаў музыку? Тым не менш, прыдумваючы назву цыкла , мы рабілі стаўку на імя. І я не пасаромеўся гэтага. Па-першае, ёсць падстава думаць, што публіка мяне ведае і любіць. Можа гучыць і нясціпла, але гэта не толькі я запрашаю — запрашае наш аркестр, каб мы разам правялі вечар. На мове музыкі пагаварылі б з людзьмі пра тое, што часам словамі не выкажаш. Я спецыяльна публіку не вытрымліваю. Рэдкія сустрэчы — не артыстычны трук з майго боку, яны абумоўлены абставінамі маёй цяперашняй працы. Хаця я лічу, што публіка павінна у некаторай ступені засумаваць, каб падчас сустрэчы было адчуванне свята.

**— Ці не паўплывала ваша частая адсутнасць у Мінску на адносіны да працы музыкантаў аркестра?**

— Яшчэ гадоў шэсць таму у нас была размова наконт таго, што можа прынесці папулярнасць калектыву. Тады я сцвярджаў, што ўвага да маёй асобы, як да кіраўніка калектыву, аўтаматычна выкліча ўвагу і да калектыву. Толькі працаваць прыйдзецца больш — і мне, і музыкантам на рэпетыцыях.

Я нейкі час працаваў побач с Гергіевым у Марыінскім тэатры. Калі было болей часу, часта туды ездзіў і прадырыжыраваў многа спектакляў. Ведаю сістэму працы гэтага тэатра, які зараз лічыцца адным з лепшых у свеце. Як зараз кажуць, не вылазіць з-за мяжы, і пры гэтым на радзіме паспявае нямала.

Гэта сістэма актыўнай працы і вельмі вялікага даверу да кожнага музыканта. Не трэба з ім, як з малым, на рэпетыцыі развучваць кожную тэму. Ёсць больш высокі ўзровень зносінаў кіраўніка са сваім калектывам. Вось мне б хацелася, каб і мы дасягнулі такога ўзроўню.

**— Ці не сталі музыканты разбягацца ў адсутнасць галоўнага дырыжора?**

— Якая б жалезная воля ні была ўласціва кіраўніку, як бы ён ні быў прывязаны да аднаго месца, тэндэнцыю, пра якую вы гаворыце, падкінула жыццё. З ёю знаёмыя вельмі многія калектывы. Ёсць, напрыклад, вельмі заслужаны — сімфанічны аркестр філармоніі Санкт-Пецярбурга.

Ім амаль 40 гадоў, нікуды не ад'язджаючы, кіраваў Яўген Мравінскі. На жаль, гэта не стала перашкодай для таго, каб некалькі разоў змяніць яго састаў. Музыканты мянялі месца, асабліва ў апошні час, ад'язджалі за мяжу. Але аркестр, як птушка Фенікс, набіраў сілы ізноў.

Што датычыцца аркестра тэатра оперы і балета Беларусі, то сапраўды, многія музыканты з'язджаюць. Ад таго, што я даю аркестру творчую ці арганізацыйную свабоду, або частку клопату перакладваю на плечы калег, сітуацыя не мяняецца. Ёсць іншыя прычыны — эканамічныя, палітычныя. Але ў нашага калектыву становішча сёння трошкі іншае, чым у сімфанічнага аркестра пры філармоніі Беларусі. Праблемы падобныя. Але наш аркестр амаль у два разы большы, ёсць рэзервы. І пакуль што мы апярэджваем філарманічны калектыў па колькасці сустрэч з замежнай публікай.

**— Ці лёгка падпісваць заявы музыкантаў аб звальненні?**

— За час сваёй працы я зразумеў, што пераканаць чалавека ці ўгаварыць — значыць зняважыць па-першае, свой калектыў. Па другое, калі я пачну гэта рабіць, то пастаўлю чалавека ў цяжкае становішча, ведаючы, што ён добра да мяне асабіста адносіцца. Яго сям'я ўжо падрыхтавалася да зменаў, і нечакана я падкіну сумненні. Навошта? Мне гэта не патрэбна, я жадаю музыкантам дабра.

Зараз група вядучых салістаў нашага аркестра паехала у Бразілію. Я паспрабаваў пераканаць нашага дырэктара, што іх не трэба звальняць, трэба адпусціць у творчы адпачынак. Магчыма, яны не вернуцца, але гэтыя людзі паехалі з добрым успамінам пра працу, з адчуваннем таго, што іх тут помняць і чакаюць. А некаторыя робяць так: звоняць на вахту і паведамляюць прозвішчы тых, каго нельга прапускаць у тэатр. Вось гэта жудасна.

У мяне таксама быў перыяд, калі я перастаў працаваць у тэатры оперы і балета Беларусі. Але я сюды прыходзіў — ніхто мне не перашкаджаў. Атрымліваў задавальненне. Памятаю, з маленькім сынам забіраўся на верх, слухаў «Аіду». Саша размахваў рукамі — дапамагаў такім чынам Праватораву, які тады быў галоўным дырыжорам. Калі потым я вярнуўся са сваёй добраахвотнай высылкі ў Перм і стаў працаваць тут ізноў, то запрасіў працаваць Генадзя Праваторава: калі жадаеце, можаце стаць за дырыжорскі пульт.

**— Негледзячы на занятасць у Еўропе, Вы, тым не менш, застаяцеся дырыжорам беларускага тэатра. Што вас тут трымае?**

— Сам часам здзіўляюся. Наш тэатр не можа аплачваць мае пераезды, езджу сюды за свой кошт. І калі падыходжу да тэатра, заўсёды ведаю, што буду рабіць. Ведаю, што магу тут частку сябе пакінуць, і гэта будзе некаму патрэбна. Многія мне могуць не паверыць, думаючы, што ў мяне тут своеасаблівы «палігон», дзе я праводжу выпрабаванні. Хто яго ведае, можа ёсць тут доля ісціны, але я гэта раблю не спецыяльна. Вось зараз паставілі «Барыса Гадунова». Я ж гэтую оперу ўжо рабіў раней у іншым месцы. Але хацелася менавіта тут паказаць, як можа прагучаць мой «Гадуноў». Хацеў, каб падчас працы салісты, хор, музыканты адчулі, што ёсць узровень, да якога мы разам можам падысці. Ізноў-такі, цікава было, як успрыме гэтую музыку публіка. Таму што потым оперу пакажам у Швейцарыі, у канцэртным выкананні. Можаце не паверыць, але для мяне важней, як гэта адбылося ў Мінску.

**— Самы малодшы з вашых дзяцей, Саша, ужо ведае, што такое сцэна. Вы яго зацягнулі ў музыку?**

— Так, ён таленавіты хлопчык, мог бы праявіць сябе ў розных галінах мастацтва. Ён вельмі пластычны (мама была салісткай балета), з багатым уяўленнем, прыдумвае розныя сцэнарыі, раманы і гэтак далей, любіць гуляць у футбол з сябрамі, а, каб не іграў на піяніна, мог бы стаць добрым тэнісістам. Але я ніколькі не ўтойваю, што хацеў бы, каб ён стаў музыкантам, менавіта таму, што мне лягчэй будзе яму дапамагчы. Нічога ў гэтым дрэннага няма. Аднойчы ўжо быў канцэрт, які я рыхтаваў у тэатры з удзелам Сашы. Зараз, я лічу, надышоў час, калі ён можа выступаць без мяне. З ліпеня ў яго быў сольны канцэрт у камернай зале філармоніі. А потым ён тую ж праграму сыграе ў Швейцарыі.

**— Ваша багатае творчае жыццё дазваляе прысвячаць сям'і дастаткова часу?**

— На жаль, не. Я стараюся знайсці час, каб наведаць сям'ю у Парыжы. Цаню кожнае імгненне, праведзенае разам з жонкай і сынам. Але нават зараз, калі мы прыехалі ў Мінск, на тое месца, дзе быў наш дом, знайшлася безліч спраў. Рыхтаваліся прэм'еры. Ізноў не хапала часу. Саша рыхтаваўся да свайго выступлення сам. Мама занятая хатнімі справамі.

**— Вы заслужаны артыст Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, атрымалі прызнанне ў Еўропе. Што вам дасталося цяжэй?**

— Прызнанне ў сваёй краіне... У Беларусі. Бо ў Расіі я быў і ёсць вядомы як дырыжор Марыінскага тэатра. Тое, як складваўся мой лёс у Мінску, было найбольш драматычна. Таму і даражэй. Гэта грошай не прыносіць. Затое бліжэй да сэрца.

**Гутарыла Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ПАЭТЫЧНЫМ РАДКОМ

## Сяргей ЗАКОННІКАЎ

### ШУКАЮ...

*Я шукаю сляды незабыўнай Айчыны*
*У жыцці,*
*а не ў сцвілай музейнай цішы.*
*Толькі бачу паўсюдна глухія руіны:*
*Долі,*
*мовы*
*і гордай, нязломнай душы.*

*Не зацвердзілі волю*
*булатныя сечы...*
*За вайною — вайна,*
*а між імі — турма...*
*Столькі згінула лёсаў жывых, чалавечых...*
*Я пытаю: «Навошта?»*
*Адказу няма.*

*Ну няўжо дзеля гэтага горада, вёскі,*
*Дзе бяспамяцтва вір*
*цягне люд мой на дно,*
*Дзе адзін толькі цень*
*і адны адгалоскі*
*Той радзімы,*
*якая канае даўно.*

*Да нябёсаў у роспачы рукі ўздымаю:*
*«Беларусь,*
*ажыві,*
*стань сапраўднай,*
*святой!...»*
*Ты ж брыдзеш,*
*як жабрачка,*
*сляпая, нямая, —*
*Можа, возьме сусед-дабрадзей на пастой?*

*Я хапаюся,*
*як за саломінку,*
*зноўку*
*За Скарынаву кнігу,*
*за матчын ручнік...*
*Ды ўзляцеў ціхай птушкай*
*з сівой валатоўкі*
*Прывід твой*
*і за сіняю пушчаю знік.*

*Мне да скону не будзе адхлання, спачыну —*
*Дума чорная ў скроні*
*адчаем дзяўбе.*
*Я шукаю сляды непазбытнай Айчыны,*
*Я шукаю, шукаю... самога сябе.*

*І чаму выпаў лёс мне — закляты такі?*
*Беларусь,*
*Бе-ла-русь...*
*Землякі,*
*зем-ля-кі...*

### СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

*Смерць свой шлях спрадвечна меціць —*
*Курганы... Пагост ля іх...*
*На Зямлі — старой планеце —*
*Мёртвых болей, чым жывых.*

*Ды шкада, калі ў аблудзе —*
*Што рабіць, куды ісці? —*
*Паміраюць часта людзі*
*І без смерці, пры жыцці.*

*Зноў падлік гняце і страшыць,*
*Як абцасам,*
*б'е пад дых:*
*У быцці нягеглым нашым*
*Мёртвых болей, чым жывых.*

* * *

*Сталінскі хапун прайшоў накатам,*
*Доўга шчыравалі смерці жорны,*
*Нішчачы ў бясконцых Курапатах*
*Самых лепшых,*
*самых непакорных.*

*Як іх ні таптталі,*
*ні мясілі,*
*Ды яны — жывучая парода:*
*Не даюць і сёння ўсім «месіям»*
*Спаць спакойна «ворагі народа».*

*Тыя,*
*што надзею продкаў помняць*
*І не прададуць яе ніколі,*
*Тыя,*
*што душой сваёй,*
*як промнем,*
*Асвятляюць шлях да добрай долі.*

*Стануць і яны вянцамі ў зрубе*
*Беларускай праўды — назаўсёды,*
*Бо народ бароняць ад загубы*
*Не «сябры»,*
*а «ворагі народа»!*

### ВЕЧНАЕ

*Пранясуцца ў парыве адным*
*дождж і снег,*
*Каб упасці на крэўныя гоні адчайна...*
*Перад воляй вышэйшай*
*наш радасны грэх*
*Стане святасцю праведнай*
*і незвычайнай.*

*Ці раней,*
*ці пазней — нас абдыме зямля,*
*Адпускаючы душы*
*да неба ў адведкі.*
*Плоць у плоць перальецца*
*пасля спакваля,*
*І ад еднасці гэтай народзяцца кветкі.*

*Выйдуць двое сюды*
*і суцішаць свой крок,*
*Каб адчуць,*
*як трапеча жыццё несціхана.*
*Усміхнецца іх шчасцю здалёк васілёк,*
*Галавою прыветна кіўне закаханым.*





# Выпускнікі крочаць далей

*Найважнейшы час для выпускнікоў архітэктурнага факультэта Беларускай політэхнічнай акадэміі — дыплом. Апошнія хваляванні, апошнія інтэрнацкія сняданкі — бульба з кефірам, апошнія штрыхі на праектах і чарцяжах. Калісьці здавалася ім, што гэта ўсё бясконца. Заўтра маладыя архітэктары будуць праектаваць непаўторнае аблічча Беларусі.*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.



*АБАРАНІ СЯБЕ САМ*

# 3. ПАРАДЫ ЖАНЧЫНАМ

**Жанчыны часта становяцца ахвярамі гвалтаўнікоў. Фактаў такіх безліч. І нават калі злачынцы нясуць пакаранне, памяць аб такой трагедыі ў жаночай душы застаецца, мусіць, назаўсёды. Як абараніць сябе, як пазбегнуць нападу? У сваёй кнізе «Азы бяспекі» маскоўскі аўтар Г.Цвілюк выкарыстаў рэкамендацыі супрацоўнікаў расійскага МУС. Нам яны падаліся дастаткова грунтоўнымі, таму гэта публікацыя падрыхтавана на аснове вышэйпамянёнай кнігі.**

Заўсёды папярэджвайце сваякоў ці сяброў пра свой маршрут і прасіце сустрэць вас вечарам. Спатканні прызначайце толькі ў шматлюдных і добра асветленых месцах. Па магчымасці, апранайцеся так, каб вопратка не абмяжоўвала вашых рухаў, збірайце доўгія валасы ў прычоску, каб іх нельга было наматаць на руку. Не надзявайце на шыю пацеркі, доўгія шалі і ланцужкі.

Заўсёды майце пры сабе кішэнную сірэну ці свісток (прымацуйце яго да ключоў) і сродкі самаабароны. Пазбягайце на сваім маршруце будоўляў, пустак, дрэнна асветленых вуліц, зараснікаў.

Рухаючыся па тратуары, ідзіце па левым баку, бліжэй да праезнай часткі, абыходзячы цёмныя пад'езды, куткі будынкаў, каб на вас не маглі напасці нечакана ці незаўважна пад'ехаць ззаду на аўтамабілі.

Убачыўшы наперадзе групу людзей, п'янага альбо аўтамабіль з пасажырамі, перайдзіце на другі бок вуліцы ці змяніце маршрут і падрухтуйце сродкі самаабароны: палку, ключы, парасон і г.д..

Калі вадзіцель праязджаючага аўтамабіля пытае ў вас парады, дайце яе, але не выклікайцеся суправаджаць, нават калі ён едзе ў патрэбны вам бок.

## ДА ВАС ПРЫСТАЮЦЬ ЦІ ПРАСЛЕДУЮЦЬ

1. Ацаніце абстаноўку, не ўцягвайцеся ў гаворку, зрабіце выгляд, што ў вас назначана сустрэча і вы спяшаецеся. Ідзіце ў напрамку асветленага і шматлюднага месца.

2. Адчуўшы, што вас праследуюць, азірніцеся і праверце вашы падазрэнні. Паспрабуйце ісці хутчэй ці перайдзіце на другі бок вуліцы. Прыкіньце адлегласць да бліжэйшага бяспечнага месца і, калі вырашылі бегчы, рабіце гэта хутка і раптоўна. Уключыце кішэнную сірэну, дзьміце ў свісток і клічце на дапамогу. Скіньце абутак на абцасах, які перашкаджае, і выкарыстоўвайце яго ў мэтах самаабароны.

3. Апынуўшыся перад бліжэйшым домам, стукайце ў дзверы, вокны, пабіце каменем шыбу. Шумам і крыкам прыцягвайце ўвагу.

Калі вас абхапілі ззаду, паспрабуйце з усіх сіл стукнуць праследаваццеля сваёй патыліцай у твар ці пяткаю па назе і працягвайце бегчы па праезнай частцы, прыцягваючы ўвагу вадзіцеляў, у шматлюднае месца ці да бліжэйшага паста міліцыі.

4. Не забягайце ў пад'езды, падземныя пераходы, глухія двары, на будоўлі. У будку тэлефона-аўтамата заходзьце толькі тады, калі ўпэўніліся, што праследавацель адстаў. Адразу ж паведаміце ў міліцыю і папрасіце дапамогі, указаўшы ягоныя прыметы і ваша месцазнаходжанне. Да прыбыцця міліцыі знаходзьцеся каля тэлефона, але не ў будцы, каб мець магчымасць бегчы пры з'яўленні праследавацеля.

## НАПАД З МЭТАЙ ГВАЛТАВАННЯ

1. Апынуўшыся сам-насам з гвалтаўніком у бязлюдным месцы, паспрабуйце распачаць з ім гаворку, выйграць час, угаварыць яго адмовіцца ад намеру, прапанаваць прыдатнае для гэтага месца, разжалабіць слязамі. Можна збянтэжыць яго, сказаўшы, што вы чакаеце сябра, што ў вас месячныя, цяжарнасць ці незразумелая хвароба, падрыхтаваўшыся да самаабароны і ўцёкаў. Размаўляйце з ім гучна, упэўнена, перамагаючы гэтым свой страх.

Памятаеце: галоўная зброя насільніка — ваш страх, пасіўнасць і цішыня. Пазбавіўшы яго гэтых пераваг, дзейнічаючы актыўна і рашуча, вы павялічыце сваю бяспеку.

2. Калі на гвалтаўніка ўгаворы не дзейнічаюць, вам неабходна нейтралізаваць яго з адной мэтаю — выйграць час для ўцёкаў, выкарыстоўваючы ў якасці зброі такія сродкі самаабароны:

— жменю пяску ці тытуню, запаленую цыгарэту;

— любую аэразольную вадкасць, усё, што ёсць у вашай касметычцы;

— аўтаручку, штопар, ключы, парасон (як штык), металічны грэбень, вязальныя пруткі і г.д.

3. Калі ў вас пад рукою нічога няма, паспрабуйце спыніць нападаючага, кінуўшы яму у твар, напрыклад, газету ці запалкі. Стукніце гвалтаўніка абцасам па пад'ёме ног ці галёнцы, укусіце, падрапайце. Памятайце: удар у пах не заўсёды эфектыўны і можа толькі разззлаваць нападаючага.

Ваша задача — не барукацца з гвалтаўніком, які напэўна дужэйшы за вас, а выкарыстоўваць любыя дзеянні, каб вырвацца і ўцячы ад яго да людзей.

## ГВАЛТАВАННЕ

1. Пры немагчымасці ўцячы ці процістаяць зброі, фізічнай перавазе гвалтаўніка ў вас ёсць магчымасць абараніць сябе падчас гвалтавання, выкарыстаўшы псіхафізіялагічныя асаблівасці мужчын у момант палавых зносінаў. Паспрабуйце прымяніць хітрасць, прымусіць паверыць, што вы і без гвалту згодныя на блізкасць з ім. Прытупіце ягоную пільнасць і дзейнічайце па выбранаму вамі варыянту.

2. Калы вырашылі абараняцца, то рабіце гэта да канца — на карту пастаўлена ваша жыццё, і паўмерамі яго не выратаваць! Лепшым сродкам астудзіць запал гвалтаўніка лічыцца нечаканае прычыненне яму болю — ударам па твары, шыі і ў пах да з'яўлення крыві. Калі гвалтаўнік схапіў вас за горла, не трымайце яго за рукі, а моцна нахіліце падбародак уніз і рукамі (нагамі) біце ў далікатныя месцы. Пры гэтым глядзіце яму ў вочы, а не туды, куды б'яце.

3.Пры любых абставінах паспрабуйце адразу ж самі, праз прахожых ці суседзяў, паведаміць пра здарэнне ў міліцыю для затрымання злачынцы і звярніцеся ў бліжэйшы траўмапункт, дзе вам акажуць першую дапамогу і зафіксуюць наяўнасць прымет гвалтавання.

## ПАНЕНКУ ЗАПРАСІЛІ Ў ГОСЦІ

Пазбягайце выпадковых знаёмстваў, не называйце свой адрас і нумар тэлефона. Збіраючыся ў госці ці на вечарынку, паведаміце бацькам аб тым, дзе будзеце бавіць час, калі вернецеся, дамоўцеся пра час кантрольнага званка па тэлефоне ці пакіньце ім нумар тэлефона гэтай кватэры.

Прыйшоўшы ў незнаёмую кватэру, агледзьцеся, запомніце месцазнаходжанне тэлефона, дзвярэй.

Калі вы знаходзіцеся ўдваіх з мужчынам, які спрабуе прымусіць вас да блізкасці, майце на ўвазе, што ў многіх мужчын пры супраціўленні жаданне блізкасці, наадварот, узрастае. Таму перад тым як клікаць на дапамогу, паспрабуйце цвёрдым і рашучым тонам патрабаваць ад яго спынення спроб насілля. Паабяцайце, што пойдзеце на блізкасць толькі пры іншых адносінах і ў іншым месцы.

У крайнім выпадку, паспрабуйце выклікаць у сябе ваніты, націснуўшы пальцамі на корань языка.

Калі ўгаворы не дапамагаюць, крычыце, выбівайце шыбу акна.

**(Працяг будзе).**

**Рубрыку вядзе Міхась БЕРАСТ.**

*З ЗАЛЫ СУДА*

# ЁН ЗАБІЎ ДВАІХ МУЖЧЫН «З-ЗА КРЫЎДЫ»

**Судовая калегія па крымінальных справах Магілёўскага абласнога суда прыгаварыла 24-гадовага бабруйчаніна Андрэя Сінькевіча да вышэйшай меры пакарання. Судова-псіхіятрычная экспертыза хоць і прызнала падсуднага вельмі запальчывым і зласлівым чалавекам, але ўсё ж такі палічыла, што ступень псіхіятрычных парушэнняў не такая значная, каб не адказваць за свае дзеянні.**

Андрэй Сінькевіч яшчэ ў 17-гадовым узросце быў умоўна асуджаны за хуліганства, але адтэрміноўку не вытрымаў і хутка трапіў у турму амаль на чатыры гады. Жаніцьба і малое дзіця на ўтрыманні на лад жыцця маладога чалавека, здаецца, мала паўплывалі. Па справе, якая разглядалася ў абласным судзе, праходзяць некалькі фактаў хуліганства, у тым ліку і бойка з былым мужам сваёй разведзенай 22-гадовай сяброўкі.

У ліпені ж мінулага года падзеі пачалі развівацца імкліва: Андрэй нідзе не працуе, яму неадкладна патрэбны грошы. 11 ліпеня ён прыходзіць да сваёй знаёмай, якая была дома разам з двухгадовым сынам. Ён запатрабаваў ад яе аддаць усё золата і грошы, а «аргументы» прыводзіў больш чым дзейсныя: спачатку ледзь не задушыў жанчыну, а потым прыставіў нож да горла дзіцяці. Толькі дзякуючы таму, што дзверы кватэры былі незачыненыя, гаспадыні ўдалося выбегчы і паклікаць на дапамогу суседзяў. Самому Сінькевічу тады ўдалося ўцячы...

Але ў ноч на 16 ліпеня ён зноў паспрабаваў здабыць грошы. Адзін знаёмы прадпрымальнік калісьці па-сяброўску пазычыў Андрэю 600 тысяч рублёў і даў дзве кашулі на продаж. Сінькевіч вырашыў, што можа і зараз разжыцца ў яго якім-небудзь таварам. Толькі потым на судзе прадпрымальнік узгадаў, што той «сябар» аднойчы разгаварыўся шчыра і расказаў, што вінен камусьці вялізную суму грошай, а таму трэба здабыць іх у якога-небудзь багатага кліента, нават шляхам забойства... Гэтымі «багатымі кліентамі» аказаліся бацька і брат прадпрымальніка.

Тым вечарам Сінькевіч прыйшоў да знаёмага на кватэру разам за сваёй сяброўкай. Ён даведаўся, што патрэбны яму чалавек паехаў у камандзіроўку па справах, але спадзяваўся нечага дабіцца — зразумела, у матэрыяльным сэнсе — ад бацькі і брата знаёмага, а таму не адмовіўся ўвайсці ў кватэру і «прыняць чарку» разам з мужчынамі.

Першым «здаўся» і пайшоў адпачываць маладзейшы. А вось бацьку знаёмага Сінькевіч быццам бы прад'явіў рахунак на паўтары тысячы долараў, якія, па ягоных словах, ён пазычыў прадпрымальніку. Па версіі падсуднага, які, зразумела, абараняўся як толькі мог, сталы мужчына пагражаў яму нажом, здзекаваўся — маўляў, дакумента ніякага няма, грошай не атрымаеш, выганяў яго з кватэры.

Судовы ж разбор устанавіў, што ў кухні, дзе пілі мужчыны, пачалася бойка і, калі туды прыбегла сяброўка Сінькевіча, стары ляжаў на падлозе без прытомнасці. Дзяўчына дапамагла палюбоўніку звязаць мужчыну рукі. А потым ягонае цела будзе знойдзена ў ваннай з пяццю нажавымі ранамі.

Не дабіўшыся ад бацькі грошай і каштоўнасцяў, Сінькевіч у лютасці кінуўся да сына, які мірна спаў пасля выпіўкі. Злачынца наносіў нажавыя ўдары яму ў грудзі, і чалавек прачнуўся і яшчэ шаптаў: «Андруха, што ж ты робіш?» Ён прасіў не забіваць, а адказам яму быў удар прасам па галаве ад сяброўкі Сінькевіча.

Пасля таго, як «з-за крыўды» (так потым растлумачыў Сінькевіч на судзе свае дзеянні) ён забіў дваіх чалавек, злачынца ўспомніў пра свой адвечны матэрыяльны інтарэс. Ён забраў з кватэры тэлевізар, відэамагнітафон і шмат рознай вопраткі, якая, відаць, прызначалася на продаж, — усяго на суму амаль 80 мільёнаў рублёў. Разам са сваёй сяброўкай паклаў «тавар» у сумку і выйшаў з кватэры. Але потым вярнуўся, каб адчыніць пяць газавых канфорак на пліце і ўключыць у электрычную сетку прас. Ён разлічваў, што хутка ў кватэры адбудзецца выбух і ўсе сляды злачынства проста згараць.

Гэтыя злачынныя планы не спраўдзіліся: з-за добрай вентыляцыі ў кватэры выбуху не адбылося. Прадпрымальнік вярнуўся дадому і ўбачыў... трупы сваіх родных.

А Сінькевіч пайшоў на кватэру да іншага знаёмага, купіў ягонае маўчанне і гасціннасць за некалькі скрадзеных рэчаў. Але ўвечары таго ж дня злачынцу затрымала міліцыя.

Былая сяброўка Андрэя Сінькевіча, якая потым не стала хаваць ад суда ўсё, што адбывалася ў ноч на 16 ліпеня 1997 года ў бабруйскай кватэры, таксама асуджана. Аднак, улічыўшы, што гэтая маладая дзяўчына выхоўвае дзіця, калегія прысудзіла ёй год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на адзін год.

Прыгавор абласнога суда Андрэю Сінькевічу — расстрэл з канфіскацыяй маёмасці — можа быць абскарджаны ў Вярхоўным судзе.

**Ілона ІВАНОВА.**

***У 1972 годзе Павел Андрэевіч МІСЬКО выдаў кнігу «Навасёлы, або Праўдзівая, часам вясёлая, часам страшнаватая кніга пра незвычайны месяц у жыцці Жэні Мурашкі» — светлую, займальна-прыгодніцкую аповесць для дзяцей тыпу «Дзяніскавых аповядаў» В. Драгунскага, «Віці Малеева ў школе і дома» М. Носава... Сёлета прапанаваў «Звяздзе» «Касу на камень» — апавяданне пра даведзеных да адчаю людзей, якія задумваюць і здзяйсняюць, кажучы мовай міліцэйскага пратакола, «забойства з асаблівай жорсткасцю». Не ведаю, як у каго, а ў мяне міжволі напрошваюцца паралелі, міжволі ўяўляецца жыццё ва ўсёй сваёй дынаміцы... Вырас наш вясёлы гарэзлівы Жэнька, адслужыў у войску, вярнуўся, ажаніўся, палюбіў чарку, спакваля пачаў ператварацца ў «ліхадзея, які не толькі сваю зарплату прапівае, дык яшчэ з яе, жонкі, жылы выцягвае, нож к горлу прыстаўляе — «давай!»***

***Словам, «часам вясёлая» кніга скончылася, пачынаецца «часам страшнаватая».***

***Хачу звярнуць увагу чытачоў яшчэ на адно. У апавяданні замест нязграбнага, як чарапаха, зусім небеларускага слова «раскладушка» ўжываецца натуральнае, паводле нормаў нашай мовы пабудаванае слова «раскладанка». Няўжо гэта наватвор самога пісьменніка? — падумалася. Зазірнуў у найноўшы «Русско-белорусский словарь, издание 4-е, исправленное и дополненное», 1993 года выдання, знайшоў літару «Р». Адгадайце, колькі аказалася адпаведнікаў рускай «раскладушцы»? Правільна — адзін-адзіны, «раскладушка».***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

*НА КОНКУРС "ЗВЯЗДЫ" І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ*

# КАСА НА КАМЕНЬ

**Павел МІСЬКО**



*АПАВЯДАННЕ*

«ШТО РАБІЦЬ?.. Што рабіць?! Што рабі-іць?!» — бухала ў грудзях, калола ў галаве. Асабліва горача-балюча — у скроні: шчака апухла, набрыняла крывёю, вока зацягнула — хоць пальцамі разлеплівай, каб што бачыць. Ды што ўбачыш тут, у баковачцы, у прыцемку? А на святло вылезеш, то не вытрываць — так рэжа, хоць далонь ад вока не адрывай.

Падушка мокрая ад слёз. Волька хацела павярнуць яе другім бокам, але ж на ёй і Галька спіць-пасопвае... Дурненькая яшчэ, нічога не разумее. Хаця таксама крыкам крычыць з перапуду, як бацька заходзіцца ганяць усіх па кватэры. Дык ад гэтага ці так ад чаго кожную ноч «рыбу ловіць». А ўжо ж не маленькая, два гады, людскія дзеці і на гаршчок просяцца, і ноччу трываюць колькі трэба.

«Што рабіць?! Што рабі-іць?!» — і зубы сціскала, колькі магла, і губы да крыві пакусала, каб не завыць уголас. Хоць галавою аб сцяну біся, хоць у пятлю зажыва лезь...

Сева вялікі, у другі клас ходзіць. Другі год у другі клас... «Запээраўцам» Севу пацвяляюць у школе — «замаруджаны працэс развіцця». Цэлы клас такіхназводзілі — і гэта ў звычайнай, нармальнай школе! Дзе такое чулі раней ці бачылі? Для такіх дзяцей спецшколы былі, па спецпраграмах вучылі. А цяпер сказалі — няма куды прымаць, усё перапоўнена. Цяпер ужо і звычайныя школы скора ў спецыяльныя ператворацца...

А так ён шустры... Тады, пакуль яна хапала Гальку, шукала, у што б угарнуць яе, Сева першы матанаў за дзверы. Усё разумее, усё чуе — а сам не гаворыць! Мо паўгода ўжо, чысты нямко зрабіўся. Просіш — міргні мне ці кіўні, калі згодзен з чым. І ківае, і міргае, а як не падабаецца што — круціць галавою. І ўсё нарабілася пасля таго, як Зосім, бацька родненькі, «канец свету» ў хаце ўчыніў.

І да ўрача вадзіла, каторы па нервах спецыяліст, і да бабкі-шаптухі (тая і вады нагаворнай дала бутэльку з сабою) — ніяк не памаглося. А настаўніца з яго класа кажа: хай ходзіць у школу, ён ціхенька сядзіць, не бяніць. Мо хоць што пачуе, запомніць... Толькі, кажа, вельмі стамляюцца такія дзеткі, даводзіцца на ўроках часта спаць класці: рукі на парту, галоўку — на рукі — «Вочы заплюшчыць!» І ціхенька ім калыханкі спявае ці так якія ласкавыя песенькі. Дзесяць хвілінак падрэмлюць — і зноў «за работу». Бедная, бедная настаўніца! Як у яе сэрца хапае на ўсіх, як не счарнее яна на вугаль!

На раскладанцы Сева, заснуў ужо. Добра, што ў бацькоў знайшлася такая, а так бы на падлозе давялося класці. Усё збіраліся яны на добрую канапу разжыцца, каб і сядзець можна было, і спаць. Усё збіралі грошы, патрохі адкладваючы з пенсій. Ды так і не купілі: вельмі ж многа «дзірак» знайшлося на гэтыя грошы. А больш за ўсё ёй пачалі памагаць... Ліхадзей гэты, Зосім, не толькі сваю зарплату прапівае, дык яшчэ з яе жылы выцягвае, нож к горлу прыстаўляе — «Давай!»

Сева раптам неяк страшна захроп-застагнаў, штосьці замармытаў. Усхапілася і вобсас да яго, сама ледзь не скапыцілася, нага правая падвяла (ударыў Зосім ногца пад калена, наўздагон, каля самых дзвярэй ужо). Кінулася да сына, затрывожылася і зарадавалася адначасова: мо адпусцілася яму? Мо пачне гаварыць?! Хацела ўкленчыць каля раскладанкі і ажно ўскрыкнула ад болю: мо хіба Зосім якія жылы пад каленам пашкодзіў?

— Сыночак, на правы бачок ляж! На правы... Ага... Вось так вось...

Тут, каля самай занавескі, што на дзвярах, лепш чуваць, пра што на кухні бацька з маці талкуюць. Пачала Волька нават словы разбіраць.

— Ды перастань ты румзаць! — знерваваны бацькаў голас. — Гарбатага магіла справіць...

— Якое перастань?! І дачка гіне, і ўнукі гінуць! А табе ўсё роўна! У цябе сэрца мядзведжым воласам зарасло! А праз каго прападаюць? Праз нейкага алкаша, сабаку валачашчага! — маці горка-слёзна высякала нос. — А Божачка, дзе падзецца, як ратавацца!

— Хай не церпіць! Хай участковаму заяву піша, каб у ЛТП забралі!

— Забыў?! Скардзілася ж! Ну й што? Далі дзесяць сутак... А вярнуўся, то ледзь у магілу не ўвагнаў!

Бацька пакашляў, нічога не адказаў.

— Адамачко-о, родненькі! Прыдумай што-небудзь, ты ж мужчына!

— Што-што... Хай падасць на развод! Хай кватэру размяняе! На маю натуру, то я ад першага разу не стрываў бы, развёўся...

— Дак яна ж толькі пагразілася напісаць заяву на развод, а той зразу: «Заб'ю! Мне нечага цяраць!»

Волька стаяла каля Севы. Слухала і аблівалася слязьмі.

Бацькаў голас:

— Ён калі і адсудзіць які пакойчык, то ўмэнт прап'е. І будзе зноў вязацца да яе...

— То можна ж і на Слуцак размяняцца, хіба абавязкова ў Салігорску жыць? Слуцак жа не за гарамі.

Волька згарнула лёгкую хустку павязкаю, завязала накаса балючае вока, пакульгала на кухню.

— Што вы тут плануеце без мяне?

— А што ж рабіць, калі ён адбіў табе мазгі, сама рады не дасі! — накінулася на яе маці. — І за што нас Гасподзь пакара-а-а-аў!

Бацька маўчаў, думаў, пачухваў расхляпешчаную грудзіну. Маленькі бліскучы крыжык матляўся на шнурку пад яго рукою.

Маці цярнула далонямі па вачніцах, па шчоках. Твар зрабіўся зацяты. Кіўнула на бакоўку:

— Спяць? Тады слухайце, што я скажу... Трэба Зосіму памагчы капутнуць... Шкада, што так позна да гэтага дадумалася!

Волька, агаломшаная такімі словамі, апусцілася на табурэцік каля печы, унурылася. А бацька закрычаў шэптам:

— Апошнія глузды высахлі?! Амерыканскага кіна наглядзелася?! Нам жа ўсім цюрма свеціць! А Севу і Гальку ў дзіцячы дом запраторацць! Круглымі сіротамі застануцца!

— Я сказала: памагчы! А не забіваць... Мой дзед калісь расказваў, табар у іх каля лесу стаяў. Дак мужыкі цыгана-канакрада залавілі. Аблажылі і... дошчачку на спіну і до-о-о-обрым каменем — грук! грук! грук! І лёгкія адбілі, і ныркі... Зверху, на скуры мо ніякага знаку, а ён пахаркаў тыдзень крывёю і здох. Цыганы праваслаўныя лічацца, хацелі на нашых могілках пахаваць таго канакрада. Дак мужыкі сцяною сталі — не далі! Во якую строгась людзі даўней блюлі!

І Волька, і бацька разгублена маўчалі, «пераварвалі» пачутае. І тады маці канчаткова ўзяла лейцы ў свае рукі:

— Не сядзі, стары! Укінь у мех палавінку кружка, што капусту прыціскаем... ці так якую дошчачку. І гнёт з капусты вазьмі: якраз камень падхадзяшчы. Волька! Ты казала, што Зосім ледзь прывалокся п'яны ды яшчэ з сабою бутэлькі прынёс.

— Ну-у... Палучка ў іх сёння была.

— Значыць, спіць п'яны... Гэта нам на руку. А калі і ачнецца, то што мы — утраіх не абложым аднаго? Збірайцеся! Цяпер і народу мала ходзіць, позна ўжо... ага! А ключы хоць не забыла дома?

Волька, баючыся глянуць на маці — ці яна гэта? — пакруціла галавою.

...Ішлі след у след, як зімою ваўкі на паляванне. Рэй узначальвала маці. Волька кульгала ззаду, і маці часта аглядвалася, прыстойвала, чакаючы яе. Гэтак прайшлі мо з кіламетр — ад квартала з невялікімі дамкамі, што калісь панастройвалі сабе шахцёры, да мікрараёна з высокімі панельнымі дамамі.

...У кватэры гарэла святло. У вялікім пакоі трашчаў, мігцеў нявыключаны тэлевізар. Пахла мачою і гарэлкаю.

Зосім сядзеў на канапе, звесіўшы на бок галаву. З аднаго боку брудная, у плямах, падушка, з другога — ляжыць бокам пустая бутэлька, валяюцца агрызкі хлеба і каўбасы.

— Добра, што дрыхне... — сказала маці, паазіраўшыся. — Скуліць яго трэба на падлогу. Але мо прачнецца?

— Не-е! Цяпер яму хоць у вуха трубі, — адказала Волька.

Маці таўханула зяця ў плячук, і ён тыцнуўся тварам у падушку. Памарудзіла, мо падумала, што вось так яго і задушыць было б лёгка. А тады ўчаперылася за рубашку, кульнула Зосіма сабе пад ногі. Ён гучна стукнуўся галавою і рукою, прастагнаў, але не ачнуўся.

— Не стой як істукан! — крыкнула на бацьку. — Распластай яго, каб спінаю ўгору ўлёгся! — а сама затрэсла прынесены ім мяшок.

Моцна бомкнуў, мо суседзі знізу папрачыналіся, камень. Грукнула дошчачка-паўмесяц, і да ўсіх пахаў далучыўся яшчэ і пах кіслай капусты ад паўкружка.

Маці накінула на галаву Зосіму мяшок.

— Я на галаву яму сяду і рукі буду трымаць. А ты — на ногі садзіся! — загадала Вольцы, быццам усё жыццё толькі тое і рабіла, што адбівала зяцям лёгкія, ныркі, пячонкі. — Адам, не трасіся, як у ліхаманцы! Дошку яму на спіну, камень у рукі і...

— Божа прамілы, даруй! Даруй і ты, сынок... — стаў бацька на калені, палажыў паўкружок упоперак спіны Зосіма. Падняў дрыжачымі рукамі камень да падбародка, хацеў і вышэй узмахнуць, але зачапіўся пальцам за шнурок з крыжам. Троп! — парваўся ён, а камень вырваўся з рук, бязладна грукнуў па дошцы, скаціўся на падлогу.

— Чорт бязрукі! — вылаяла яго маці. — Садзіся на маё месца!

Памяняліся ролямі...

Маці гахнула каменем некалькі разоў, з усяе сілы, з прыпускам. Ад першага ўдару Зосім застагнаў, узвыў. Ад наступных жа спрабаваў круціцца, вырывацца і раптам... абмяк, заціх.

І толькі тады схамянуліся, паўсхопліваліся на ногі.

— Даруй, Госпадзі! Памілуй нас, Госпадзі! — калаціўся бацька.

Волька раптам убачыла, што барвовы твар маці расплываецца плямаю. Мабыць, пачало траціць зрок і здаровае вока.

Здаецца, усё забралі, што неслі з сабою. Маці яшчэ прабегла па кватэры, усюды павыключала ілюмінацыю.

Як ішлі назад, Волька адчула, што ў яе чамусьці сутаргава сціснутыя кулакі. У правую далонь штосьці пякуча коле-рэжа, нібы наскрозь пратыкае. З цяжкасцю, памагаючы другою рукою, расціснула пальцы на правай. Не так убачыла, як навобмацак пазнала: бацькаў крыжык! Мокры, ліпкі ад крыві...

Не цямячы, што робіць, стрэсла яго з далоні ў кучку смецця каля бардзюра...

## ФІЛЬМАТЭКА

- ***«Апантаныя»***
- ***«Ценявая змова»***
- ***«Паміж двух агнёў»***

Расійскімі кінамайстрамі створана мастацкая кінастужка **«Апантаныя»**. Аўтар сцэнарыя — Сафія Русу, рэжысёр — Уладзімір Сухарэбрый.

Малады музыкант Іцхак Гутман на пачатку 80-х гадоў эмігрыраваў з Савецкага Саюза ў Германію. Там ён зрабіў цудоўную кар'еру і ў нашы дні вяртаецца на радзіму знакамітым прадзюсерам і імпрэсарыо. Разам са сваёй сяброўкай Евай ён разлічвае ажыццявіць грандыёзную канцэртную праграму з удзелам расійскіх і замежных выканаўцаў.

Знаёмы са справамі музычнага шоу-бізнесу, Іцхак на шляху да мэты не абмяжоўвае сябе ў выбары сродкаў. Для пачатку ён пры дапамозе сяброў умела выклікае ў Евы рэўнасць, правакуючы яе на экстравагантныя ўчынкі, якія ствараюць і ёй, і самому Іцхаку скандальную славу, прыцягваючы да яго ўвагу грамадскасці і цікавасць патэнцыяльных гледачоў. У жорсткай барацьбе з канкурэнтамі ён бязлітасна распраўляецца з імі.

У ЗША знята мастацкая кінастужка **«Ценявая змова»**. Яе паставіў рэжысёр Джордж П. Касматас, сцэнарый напісалі Адзі Хасак і Рык Гібс.

Прафесар Юрый Пачэнка ўзначальвае групу, якая аналізуе работу дзяржаўных служачых ЗША. У базе даных яго лабараторыі з'яўляюцца сведчанні таго, што ў апараце прэзідэнта Амерыкі плануецца ценявая змова, накіраваная на знішчэнне кіраўніка дзяржавы.

Дамовіўшыся аб сустрэчы з памочнікам прэзідэнта Бобі Бімопам, прафесар ледзь паспявае перадаць частку інфармацыі, як падае мёртвым ад кулі невядомых.

Джакоб Конрад, начальнік штаба ЦРУ, лідэр змоўшчыкаў, тайна сочыць за Бобі. Карэспандэнт газеты «Вашынгтон Геральд» Аманда Івенс пачынае асабістае расследаванне палітычных інтрыг у Белым доме...

Французскія кінематаграфісты выносяць на суд гледачоў мастацкую кінастужку **«Паміж двух агнёў»**. Яе паставіў рэжысёр Клод Зідзі.

Інспектар Жульен Сігаль пад выглядам бандыта павінен пранікнуць у наркамафію. Кіраўнік мафіі Рашэ падкупіў камісара паліцыі П'яна, і той папярэджвае яго аб усіх акцыях паліцыі. Падставіў камісар і Жульена, у выніку чаго той ледзь не загінуў. Жульену нічога не застаецца рабіць, як весці гульню самастойна і дзейнічаць на асабісты страх і рызыку.

**СМЕХАТЭРАПІЯ**

*Норавы нашых дзён*

# ШАХНЕМ ПА ТЭЛЕФОНЕ!

ВОСЬ ШТО РАСКАЗАЎ спадар Т. Субота пачыналася з галаўнога болю. Душу і цела апанавалі суцэльная млявасць і абыякавасць да жыцця. Было брыдка. Адным словам, пахмельны сіндром, шматразова апісаны ў спецыяльнай літаратуры. Жонка пайшла на працу, дзеці ў школу. Што спрашчала справу, бо іначай было б сорамна глядзець ім у вочы. Памяць нагадвала міннае поле. Натыкнешся на ўспамін, нібы на міну, і нешта прыгадаеш. Астатняе ў белых плямах.

Пацягнуўся да тэлефона.

— Алё, Валодзя, што парабляеш?

— Лепш не пытайся. Паміраю...

— Дык мо сустрэнемся, палечымся?

— Не змагу рухацца. Ледзьве ногі перасоўваю. Ну і далі мы з табою ў боты!

Памаўчалі.

— І што рабіць будзем?

— Схадзі на піва.

— Душу півам не абманеш...

Памаўчалі. Валодзя кажа:

— У мяне ў лядоўні пляшка «Зуброўкі» засталася. Ды неяк аднаму піць няёмка.

— Так. Аднаму піць — апошняя справа. Гэткім чынам і ў ЛТП нядоўга трапіць.

— І я пра гэта...

Зноў памаўчалі. На душы стала яшчэ горш. Самота не праходзіла.

— Валодзя, пачакай, схаджу гляну, што ёсць у маёй лядоўні.

— Ператэлефануй.

Я накіраваўся на кухню. Душу напоўніла чаканне чагосьці незвычайнага, таямнічага. У лядоўні стаяла пляшка.

У гэтую хвіліну я зразумеў Ньютана падчас адкрыцця ім закона сусветнага прыцягнення. Яму яблык на галаву ўпаў, мне на вочы трапіла бутэлька. Схапіўшы яе, адчыніў шафку і дастаў чарку.

— Валодзя!— тэлефаную.— Ёсць ідэя! Ты ж пра секс па тэлефоне ведаеш? Во. А мы давай з табою гэткім чынам вып'ем!

— Геній! Не кладзі трубку. Я — на кухню.

— А я што-небудзь закусіць вазьму.

Праз хвіліну пачуўся голас Валодзі:

— Ну, будзем! За здароўе.

Я наліў чарку, чокнуўся з тэлефоннай трубкай і шахнуў. Пачаў закусваць.

— Пачакай жмякаць,— чую Валодзеў голас.— Пасля першай не закусваюць.

Я паслухаў сябра.

Па целе пайшла асалода. У галаве затуманілася.

— Давай за сяброўства. За тое, што дапамагаем адзін аднаму ў цяжкія хвіліны.

Выпілі і па трэцяй.

— Ну, і як табе візіт Кірыенкі?

— Праблематычна адразу даць адназначную ацэнку.

Я задумаўся. Адзначу: палітычныя погляды нашы розныя.

— Я ведаю, як душа твая радуецца. Усё сваю Пензу прыгадваеш.

— А ты толькі мястэчковымі інтарэсамі жывеш.

І мы пачалі спрачацца. У рэшце рэшт я кінуў трубку.

Уключыў тэлевізар і пачаў пахаджваць па хаце, запаліўшы цыгарэту. Паціху супакоіўся. Во славянская натура: варта выпіць адразу пра палітыку. Не тое што якія-небудзь англічане. І чаго мы з Валодзем не можам падзяліць? Каб яшчэ ад нас тая высокая палітыка залежала.

— Валодзя,— тэлефаную,— давай без палітыкі абыдземся.

— Я і сам ужо падумаў. Налівай. Давай шахнем за сяброўства.

Выпілі, закусілі.

— Слухай, а мы ж учора з нейкімі кабетамі таньчылі.

— Не памятаю...

— Вось дык старыя дурні! І гэта пры тым, што ў нас такія жонкі.

— Не кажы.

— Давай за іх.

— Слушна, згодзен.

Выпілі, і я прыгадаў тых кабет.

— Ведаеш, а бялявая нішто сабе была. І не дурная. Нешта з ёю пра Дастаеўскага спрачаліся.

— Гэта ты са мною спрачаўся.

— А-а...

Я адкінуўся ў крэсле. Запаліў цыгарэту. У галаве з'явілася думка: напіўся.

— Валодзя, я п'яны.




Малюнак М. СЕЎЛЮКА.

— Кінь, з такой дозы...

— Дык на старыя ж дрожджы.

Валодзя замоўк. Пасля пачуўся трэск, нешта ў ягоным пакоі ўпала.

— Валодзя?

Ціха.

— Валодзя? Давай вып'ем яшчэ. У мяне крыху засталося.

— Ах вы алкаголікі! Да чаго дадумаліся!

У тэлефоне гучаў голас ягонай жонкі. Я ціхенька паклаў трубку. Дапіў астаткі і заснуў.

Спадар Т. закончыў аповяд.

— А чым той дзень у вас скончыўся?

— Лепш не пытайцеся. Праз паўгадзіны і мая дахаты прыйшла.

Метад спадара Т. мяне ўразіў. Вечарам расказаў пра яго сябрам.

— Мо й нам заўтра прыйдзецца ім скарыстацца,— сказаў адзін.

— Усё можа быць. Таму піць трэба менш.

Нічога не атрымалася. Назаўтра з раніцы жонка адправіла мяне выбіваць ходнікі. Але, распавядаючы пра гэты метад, думаю: мо каму іншаму больш пашанцуе? І ўспомняць добрым словам Т. і аўтара гэтых радкоў.

**Запісаў Міхась БЕРАСТ.**

# Спартыўныя амбіцыі пасёлка Чысць

**Хто ведае, можа сапраўды з цягам часу тут будуць другія Стайкі. Ва ўсякім разе, матэрыяльная аснова для падобных амбіцый існуе.**

Сярэдняя школа ў Чысці мае выдатную спартыўную базу— сем спартыўных залаў: для гульняў, гімнастычная, трэнажорная, спецыялізаваная зала для бокса, барацьбы, лячэбнай фізкультуры. Ёсць яшчэ і 25-метровы басейн і сауна.

Пра якасны стан спартыўных збудаванняў гаворыць хоць бы той факт, што ўжо двойчы ў Чысці праходзілі зборы рэспубліканскай каманды па кікбоксінгу. Умовы для трэніровак і пражывання спартсменам прыйшліся даспадобы. Такім чынам, ва ўнушальных дасягненнях беларускіх кікбаксёраў на сусветнай арэне ёсць уклад і Чысці.

Гэты жорсткі, чыста мужчынскі від спорту спадабаўся мясцовым падлеткам. Сярод іх ёсць ужо першаразраднікі, удзельнікі розных міжнародных спаборніцтваў. Летась Віталь Жлоба стаў пераможцам юнацкага чэмпіянату Еўропы па кікбоксінгу. Цяпер ён студэнт Беларускай акадэміі фізічнага выхавання.

Тут трэба сказаць, што пасёлак Чысць — гэта зусім не звычайны населены пункт. Тут многа зроблена па так званай чарнобыльскай праграме па ўладкаванню перасяленцаў з забруджанай радыенуклідамі зоны. Пад гэтую справу былі асігнаваны значныя сродкі, бо сюды пераехалі жыць каля 600 сям'яў. Былі пабудаваны бальніца, дзіцячы сад і школа. Яе адкрылі ў 1989 годзе, потым пачалі ўзводзіць спартыўны комплекс, які быў здадзены ў эксплуатацыю тры гады таму.

Цяпер пры комплексе працуе раённы клуб дзіцячай і юнацкай фізічнай падрыхтоўкі. Толькі па плаванню тут восем груп, дзве па баскетболу, ёсць група па валейболу, боксу, барацьбе, настольнаму тэнісу.

Пасля работы ў спартыўныя залы прыходзяць дарослыя жыхары Чысці. Такім чынам, спартыўныя залы і пляцоўкі загружаны з ранку да позняга вечара.

Летам пры школе, а дакладней — на яе спартыўнай базе, звычайна адкрываецца аздараўленчы лагер. Ужо тут адпачылі некалькі соцень юнакоў і дзяўчат. Для бацькоў гэта добрае выйсце са становішча, калі далёка не кожная сям'я можа дазволіць сабе раскошу куды-небудзь выехаць (скажам, на Чорнае мора) у водпуск. Кіраўнікі Маладзечанскага раёна і акцыянернага таварыства «Забудова», якое знаходзіцца ў Чысці, падтрымліваюць развіццё спорту на вёсцы не толькі маральна.

Дырэктар Чысцінскай школы Сцяпан Кругалевіч з удзячнасцю гаворыць пра старшыню Маладзечанскага райвыканкама Пятра Кулеша і генеральнага дырэктара «Забудовы» Іосіфа Русака. Іх адносіны да патрэб школы, на думку мясцовых настаўнікаў, добры прыклад для іншых кіраўнікоў прадпрыемстваў і гаспадарак. Разам з «Забудовай», дзе, дарэчы, працуюць пераважная большасць бацькоў навучэнцаў школы, педагогі праводзяць розныя спартыўныя мерапрыемствы, святы. На іх збіраюцца не толькі жыхары Чысці, у якой колькасць насельніцтва хутка дасягне пяці тысяч, але прыходзяць і з суседніх вёсак.

Прадмет асаблівага гонару жыхароў Чысці — мясцовая футбольная каманда другой лігі «Забудова». Яна — маладая, але, відаць па ўсім, мае добрыя перспектывы на будучыню. Моладзі ў Чысці і навакольных вёсках шмат, нямала юнакоў жадаюць сур'ёзна займацца футболам. Зараз разглядаецца пытанне аб стварэнні ў Чысці спартыўнай школы па футболу, у якой будзе рыхтавацца рэзерв для каманды. Чатыры матчы правяла «Забудова» на сваім полі і ўсе іх выйграла. На першы матч сабралася больш за дзве з паловай тысячы чалавек. Мікалай Мятліцкі, начальнік каманды, пераехаў сюды з Хойнікаў. Там ён працаваў дырэктарам футбольнага гасразліковага футбольнага клуба, і вопыт арганізатарскай спартыўнай работы ў яго быў. Мікалай, на шчасце, знайшоў падтрымку ў Чысці і раёне. Яму дапамаглі прывесці ў парадак поле, якое да гэтага ўяўляла звычайны кавалак зямлі, экіпіраваць спартсменаў і г. д.

Улічваючы, што каманда па сутнасці існуе першы год, Мятліцкі і яго паплечнікі пакуль ставяць перад сабой сціплыя мэты: для пачатку сёлета ўвайсці ў першую пяцёрку другой лігі. Далей, пры станоўчым збегу акалічнасцяў і ўпартай працы ўсіх зацікаўленых бакоў, можна разлічваць на дастойнае месца ў першай лізе.

Але тут многае будзе залежаць ад фінансавання каманды. Кіраўнікі мясцовага клуба збіраюцца самі зарабляць грошы, каб мець магчымасці стварыць прафесійную каманду, запрасіць добрых трэнераў, футбалістаў. І ўвогуле, з цягам часу ператварыць Чысць у спартыўны цэнтр накшталт славутых Стаек.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**



*У Дзяніса Мятліцкага, Дзяніса Бяспалага і Дзімы Кучына ўжо ёсць спартыўны разрад — першы юнацкі...*



*Каля ўваходу на тэрыторыю спарткомплексу.*



*У зале ідзе трэніроўка юных баксёраў.*

36,6°

## Тым, каму не спіцца

2 ст. лыжкі насення канапель дробна растаўчы, прасеяць. Заліць 1 шклянкай гарачай гатаванай вады. Настояць 30—40 хвілін. Спачатку выпіць палову шклянкі за 2 гадзіны да сну. Потым, праз гадзіну, выпіць рэшткі разам з асадкам. Настой абавязкова павінен быць цёплым. Прымаць два тыдні.

2 чайныя лыжкі шышак хмелю на шклянку кіпеню. Настояць 4 гадзіны, працадзіць. Выпіць шклянку на ноч, 1 частку здрабнёных шышак хмелю на 4 вагавыя часткі гарэлкі. Настояць 2 тыдні ў цёмным месцы, працадзіць, адціснуць. Прымаць 2 разы на дзень да яды 5 кропель настойкі на 1 ст. лыжку вады. Другі раз піць на ноч.

Ліст мяты перцавай — 30 г, трава сардэчніку — 30 г, карэнішча валяр'яну лекавага — 20 г, шышкі хмелю звычайнага — 20 г. Узяць 10 г сумесі, заліць шклянкай кіпеню, награваць на кіпячай вадзяной лазні 15 хвілін, астудзіць, працадзіць і давесці гатаванай вадой колькасць настою да першапачатковага аб'ёму. Піць па 1/2 шклянкі 3 разы на дзень пры нервовым узбуджэнні і бяссонніцы.

*«АиФ-Здоровье».*

**ІМЯНІНЫ** **СЁННЯ** **МЕСЯЦ**

**Пр. Кіра і Іаана, Сергія і Германа, Паўла**
**К. Бэнэдыкта, Вольгі**

**Поўня 9 ліпеня**
*З 21.19 — 17-ыя месяцавыя суткі.*
*З 17.53 Месяц -- у сузор'і Вадалея.*

**НАДВОР`Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, дажджы, месцамі дажджы моцныя, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ў Брэсце — 16—18, Гродне, Гомелі і Мінску — 17—19, Магілёве — 19—21, Віцебску — каля 22 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі; 12-га — месцамі, пераважна па паўночна-ўсходняй палавіне рэспублікі, а 13-га ўначы — па поўначы пройдуць кароткачасовыя дажджы; удзень 13-га пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 8—13, удзень 12-га — 17—22, 13-га — 20—25 градусаў вышэй нуля.

**Калегі па працы выказваюць шчырыя спачуванні Васілю Віктаравічу Атрахімовічу ў сувязі са смерцю МАЦІ.**

ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

# А ЦІ ДУРАНЬ «ПОПКА»?

**Калі вы маеце дачыненне да той часткі нашага насельніцтва, рэакцыяй якой на любое ўпамінанне пра сабаку, кошку і іншую хатнюю «дробязь пузатую» з'яўляецца фраза, якая стала ўжо класічнай: «Панаразводзілі тут... людзям есці няма чаго...», то пачытайце лепш што-небудзь іншае. А для ўсіх астатніх, бадай, пачнем.**

**Гаворка пойдзе аб папугаях. Для пачатку папрашу тых, хто не па чутках знаёмы з біялогіяй, дараваць мне даволі вольнае абыходжанне з заалагічнай сістэматыкай. Мы не будзем па-ментарску разглядаць сямействы, роды, віды і падвіды гэтых птушак, а дастаткова вульгарна раздзелім іх на дробных, сярэдніх і буйных.**



### «Дробязь», але прыемна

Дробныя папугаі, усімі прызнаным лідэрам і «каралём» сярод якіх з'яўляецца хвалепадобны папугайчык, найбольш прымальны для клетачнага ўтрымання ў сярэднестатыстычнай гарадской кватэры. Мала знойдзецца сем'яў, якія хоць аднойчы не трымалі б у сябе дома гэтых забаўных, сімпатычных істот. У адрозненне ад усіх астатніх папугаяў, хвалепадобных можна лічыць ужо цалкам хатнімі птушкамі. У Еўропу яны трапілі яшчэ ў мінулым стагоддзі і з тых часоў так і жывуць у клетках аматараў.

Прыродная афарбоўка гэтых птушак — зялёная, але на працягу доўгага ўтрымання ў няволі было выведзена мноства каляровых птушак, акрамя таго, з'явіліся хахлатыя і гіганцкія папугаі, якія амаль удвая пераўзыходзяць па памерах сваіх прыродных сабратоў.

Утрымліваць гэтага папугая нескладана. Есць ён звычайную зерневую сумесь, якую можна набыць у любым зоамагазіне ці на рынку.

Хвалепадобныя папугайчыкі лёгка прыручаюцца, для гэтых мэтаў лепш завесці адну птушку, лепш самца, прычым узяць яго трэба як мага ў больш юным узросце. Для таго, каб папугай хутчэй прывык да вас і не кідаўся ў далёкі куток клеткі пры любым руху ў пакоі, не трэба фарсіраваць працэс прыручэння. Нельга спрабаваць браць птушку ў рукі, калі яна сама гэтага не жадае. Набярыцеся цярпення і, упэўнены, вы адчуеце нашмат большае задавальненне ад таго, што папугай сам смела зробіць крок на падстаўлены яму палец. Нягледзячы на свае невялікія памеры і ўяўную «несур'ёзнасць», хвалепадобнага папугайчыка можна навучыць імітаваць чалавечую гаворку. Але «навучыць» — не зусім адпаведнае слова. Звычайна птушка сама, без усялякага пабочнага ўмяшання пачынае паўтараць гукі, якія часцей за ўсё чуе.

Калі гэтых папугаяў трымаць парамі, то нескладана дабіцца іх размнажэння, для чаго да адной з дзверцаў клеткі трэба падвесіць невялікі фанерны домік, а на яго дно кінуць пару жменек драўнянага пілавіння.

Іншыя віды дробных папугаяў таксама нядрэнна жывуць у няволі. Госці з Афрыкі — некалькі відаў папугаяў, аб'яднаных пад агульнай назвай «неразлучнікі», не маюць такога доўгага хваста як хвалепадобныя, але не менш прыгожыя. Гэтых папугаяў утрымліваюць у клетках радзей, чым хвалепадобных, але тым не менш рэдкасцю яны не з'яўляюцца і іх параўнальна нядорага можна набыць на рынку ці ў зоамагазіне. Размнажаюцца неразлучнікі гэтак жа, як і хвалепадобныя папугаі. Аматары-птушкаводы сцвярджаюць, што вельмі рэдка можна ўбачыць ручнога неразлучніка, а ўжо таго, які «гаворыць», — і пагатоў. Трымаць іх трэба парамі ці групамі ў прасторнай клетцы альбо нават вальеры. Адзінокі неразлучнік доўга не пражыве і будзе ўвесь час пранізліва крычаць, спадзеючыся пачуць крык у адказ свайго супляменніка.

Сярод больш рэдкіх (а таму і дарагіх) дробных папугаяў варта ўпамянуць блакітных папугайчыкаў, травяных, карэлу, вераб'іных і пеўчых. Апошнія, у адрозненне ад пераважнай большасці сваіх гарластых сабратоў, валодаюць на рэдкасць меладычным, прыемным голасам.

Утрыманне і развядзенне ўсіх дробных папугаяў адрозніваецца толькі невялікімі нюансамі. Усе яны добра жывуць у хатніх умовах і, выгадаваныя з юнага ўзросту, зусім не баяцца чалавека.

### Залатая сярэдзіна

Сярэднія па памерах папугаі куды больш разнастайныя, чым дробныя. Утрымліваюць іх у клетцы значна большых памераў. Яна абавязкова павінна быць цэльнametалічнай. Справа ў тым, што самы галоўны вораг папугая ў няволі — вымушанае гультайства. Гэтым вельмі актыўным і кемлівым птушкам пастаянна патрэбны новыя адчуванні і яны іх знаходзяць, паступова разбураючы сваёй моцнай дзюбай усе драўляныя і пластыкавыя дэталі клеткі.

Заняць «справай» папугая нескладана: у зоамагазіне заўсёды ёсць у продажы разнастайныя птушыныя цацкі. Акрамя таго, у клетках «серадняччкоў» пастаянна павінны знаходзіцца галінкі дрэў ці кустоў (толькі тых, пра якія вы дакладна ведаеце, што яны не ядавітыя!) — няхай лепш галінкі ў труху ператвараюцца, чым падлога клеткі ці пярэдняя частка доміка.

Да сярэдніх можна залічыць розныя віды каралевых папугаяў, разел, сенегальскіх, каліт, лоры, ларыкетаў і шмат іншых. Усе яны выдатна прыручаюцца, нядрэнна пераймаюць чалавечую гаворку (у папугаяў тут усё як у людзей: ёсць і «вундэркінды», і безнадзейныя тупіцы). Даволі значнай заганай усіх сярэдніх папугаяў з'яўляецца іх рэзкі, непрыемны голас, якім яны крычаць, калі пужаюцца ці калі хочуць звярнуць увагу на сваю персону. Але тут выйсце толькі адно: не пужайце свайго папугая і часцей з ім гаварыце.

З пералічаных відаў сярэдніх папугаяў, бадай, толькі разела і каліта нядрэнна размнажаюцца ў няволі. Але для гэтага ім клеткі мала, патрэбна большая вальера.

### Вялікі папугай — вялікія клопаты

Вялікія папугаі — мара любога аматара жывёл. Як правіла, гэта мара так і застаецца толькі марай. Вельмі ж дарагія гэтыя птушкі.

Найбольш вядомыя з буйных папугаяў — амазоны, жако, какаду і ара (ад цемя да кончыка хваста даўжыня буйнога ара можа перавышаць метр). У гэтай катэгорыі папугаяў знаходзіцца самы лепшы, непераўзыдзены «гаварун» — шэры афрыканскі папугай, ці проста жако. Ён можа запомніць і вельмі «дарэчы» сказаць да 500 розных слоў і выразаў, акрамя таго імітаваць навакольныя шумы: ад гуку вады, якая льецца, да мяўкання кошкі ці сабачага брэху. Таксама ён можа навучыцца насвістваць даволі складаныя мелодыі.

Прыгажуноў какаду ведаюць усе, але ў гэтых папугаяў ёсць адна звычка, якая цяжка пераносіцца: пры ўзбуджэнні ці спалоху яны выдаюць жудасны крык. Каб хоць прыблізна зразумець, на што гэта падобна, уявіце сабе опернага баса, які сеў у чым маці нарадзіла на гарачы прас... Так што, калі ваш сябар-какаду будзе часта пужацца, то праблем з суседзямі ці міліцыяй не пазбегнуць. А гаварун ён вельмі пасрэдны.

Што датычыцца вялізнага ара, то, нягледзячы на свае ўражальныя памеры, размаўляць яго навучыць даволі складана.

Іншыя нязручнасці ўтрымання вялікіх папугаяў у тым, што калі такая птушка захоча размяць крылы ў сярэднестатыстычнай гарадской кватэры, то парачкі хрустальных ваз і вазонаў, скінутых узмахам магутных крылаў, не мінаваць. Акрамя таго ўявіце, што калі птушка памерам з курыцу пару разоў «капне» на ваш любімы варсісты дыван, а «капне» яна, я вас запэўніваю, далёка не пару разоў. І апошняя нязручнасць: разззлаваны ара ў стане з лёгкасцю «адшчыкнуць» палец сваёй магутнай дзюбай нават даросламу мужчыну. Калі пасля ўсяго сказанага вы ўсё ж асмеліцеся ўтрымліваць буйнога папугая, то клетку для яго трэба набываць адпаведную, цэльнametалічную з загартаванымі тоўстымі прутамі.

### Некаторыя падрабязнасці

Просценькую клетку для дробных папугаяў можна набыць за 200—400 тысяч рублёў. Фірменны цэльнametалічны выраб, у залежнасці ад яго дызайну, абыдзецца як мінімум у 800 тысяч (максімум — 14 мільёнаў — для буйных папугаяў). Карміць папугаяў толькі аднымі зерневымі сумесямі нельга — захварэюць. Абавязкова трэба даваць розную агародніну і садавіну. Нельга скормліваць расліны, багатыя эфірнымі маслamі. Калі-нікалі можна прапаноўваць белы хлеб, размочаны ў малацэ, і кавалачкі поснага адваранага мяса. А наогул, перш чым браць птушку, высвятліце, чым яна харчуецца, інакш могуць быць непрыемнасці. Напрыклад, некаторыя лоры і ларыкеты ў прыродзе харчуюцца амаль выключна кветкавым нектарам. Калі прапанаваць такому папугаю зерневую сумесь, то ён хутчэй здохне, чым дакранецца да яе. Падыходзячая замена нектару ва ўмовах няволі — згушчонка, мёд і вітамінізаваныя сіропы.

**Арцём ХАНІН.**



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ЗАКУВАЛА ЗЯЗЮЛЬКА

*Доля жанчын — маўкліва любіць, няўцешна перажываць ды спавядацца небу. Застаецца яшчэ для іх і магчымасць выказацца ў песні, дзе пра свой боль і палахлівую радасць даводзіцца гаварыць сімваламі, каларытнымі вобразамі, параўнаннямі.*

Песню «Закувала зязюлька» запісаў Рыгор Шырма ў роднай вёсцы Шакуны, што на Пружаншчыне, у 1932 годзе ад бацькі. Існуюць варыянты гэтага фальклорнага твора («Ой, у полі дубочак», «Узышло сонца рана»).

Песня «Закувала зязюлька» трапіла ў Расію, і там узнік новы яе варыянт. Надзея Кадышава і ансамбль «Залатое кальцо» цяпер зрабілі гэты варыянт песні вельмі папулярным як у Расійскай Федэрацыі, так і ў рускамоўных асяродках суседніх краін. Аднак у дадзеным вакальным творы засталіся прыметы яго беларускамоўнага паходжання.

*Па просьбе выкладчыкаў і студэнтаў факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта змяшчаем песню «Закувала зязюлька» і яе перапрацоўку «Напілася я п'яна», у якую прыўнесены адметнасці рускамоўнага бытавання твора.*

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Закувала зязюлька*
*У вішнёвым садочку,*
*Ой, баліць, баліць маё сэрданька*
*Па маім галубочку.**

*Ой, зязюлька кукуе,*
*Салавей тое чуе,*
*А я не знаю ды не ведаю,*
*Дзе мой мілы начуе.*

*Калі дзе пры дарозе,*
*Прынясі яго, Божа,*
*Калі ў дзеванькі у святлічаньцы,*
*Пакарай яго, Божа.*

*Пакарай яго, Божа,*
*Хоць маёю бядою,*
*Бо я да яго з шчырым сэрданькам,*
*Ён да мяне з непраўдою.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

# НАПІЛАСЯ Я П'ЯНА




*Напілася я п'яна.*
*Не дайду дамоў рана.*
*Давяла мяне ночка цёмная*
*Да вішнёвага сада.**

*Ой, зязюлька кукуе,*
*Салавей тое чуе.*
*Калі б знала я, калі б ведала,*
*Дзе мой мілы начуе.*

*Калі дзе у дарозе,*
*Памажы яму, Божа.*
*Калі ў дзеванькі на пасцеліцы,*
*Пакарай яго, Божа.*

*Пакарай яго, Божа,*
*Ды маёю бядою.*
*Я да яго з шчырым сэрданькам,*
*Ён да мяне з няпраўдою.*

*А ці ж я не такая.*
*Як і тая — другая?*
*Я харошая, я прыгожая,*
*Толькі доля ліхая.*

*Ой, пайду у царкву я,*
*Стану за дзвярыма.*
*Людзі хрысціцца, яшчэ моляцца,*
*А я льюся слязіма.*

*Напілася я п'яна.*
*Не дайду дамоў рана.*
*Давяла мяне ночка цёмная*
*Ў сад вішнёвы да Івана.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## Крыжаванка

**Па гарызанталях:** 5. Знешні выгляд чалавека, яго адзенне. 6. Няезджаная, няходжаная снежная прастора. 9. Асноўная буйная арганізацыйна-вытворчая адзінка ў будоўлі. 11. Светлы арэол вакол Сонца. 12. Паказальнік, спіс, пералік ч.-н. 15. Памылковае, ілюзорнае ўяўленне. 17. Рускі аграном XIX ст., доктар сельскай гаспадаркі, які вучыўся і працаваў у Горках. 18. Астраўная дзяржава ў Паўночнай Амерыцы. 19. Усыпленне шляхам унушэння. 20. Лясная пералётная птушка. 24. Узорыстае пікейнае пакрывала на ложак. 25. Падсмажаны кавалак сала. 26. Састаўная частка сказа. 29. Нізкае багністае месца. 30. Крайняя беднасць. 31. Шчыльныя, крытыя зверху вароты. 33. Рака ў Беларусі і ў Літве. 34. Ціхаакіянская прамысловая рыба.

**Па вертыкалях:** 1. Ляжанка на рускай печы. 2. Аповесць І. Шамякіна. 3. Забаўная выхадка, дасціпны выраз. 4. Дэкаратыўная садовая кветка з вялікімі кветкамі. 7. Будова зямной паверхні. 8. Задняя частка судна, лодкі. 10. Персанаж п'есы К. Крапівы «Партызаны». 13. Слупок тэксту ў газеце, кнізе. 14. Густы суп з дробна нарэзанымі кавалачкамі мяса і вострымі прыправамі. 16. Жаночы персанаж оперы М. Глінкі «Руслан і Людміла». 18. Круглая булка пшанічнага белага хлеба. 21. Радыёлакатар. 22. Паляўнічая звералоўная пастка. 23. Маці жонкі. 27. Дзяржава на поўдні Еўропы. 28. Абліцовачны падзелачны драўляны матэрыял. 31. Хлебны выраб, спечаны на патэльні. 32. Цвёрды мінерал з групы сілікатаў.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**
*г. п. Бялынічы.*




## Крыптаграма

Спачатку разгадайце ключавыя словы, а потым падстаўце адпаведныя лікам з гэтых слоў літары ў малюнак крыптаграмы. У выніку вы прачытаеце мудрае народнае выслоўе.

а) 1-2-3-4-5-6 — вузкая палоска тканіны; б) 7-8-9 — месца злучэння сшытых кускоў тканіны; в) 10-11-12-13-14 — асоба, якая праявіла сябе ў грамадскай дзейнасці, навуцы, культуры; г) 15-16-17-6 — дрэва з сэрцападобнымі зубчатымі лістамі і духмянымі меданоснымі кветкамі.

**Склала Г. МАРГУН.**
*г.п. Лельчыцы.*

## Галаваломка

Прыгледзьцеся ўважліва да малюнка, і вы адшукаеце ключык, з дапамогай якога вы прачытаеце зашыфраваную вядомую прымаўку.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*





## Паўслова ёсць, паўслова — дадайце

На малюнку ў клетках пазначаны па тры літары з шасці ў канцы кожнага слова. Патрэбна падабраць яшчэ па тры літары спераду, каб атрымаліся агульнавядомыя словы.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

## Праверце, калі ласка, адказы

**Крыжаванка (27 чэрвеня)**
**Па гарызанталях:** 1. Машара. 4. «Чайка». 7. Тратуар. 10. Асоба. 13. Яфімаў. 20. Вопратка. 21. Атлетыка. 23. Арнамент. 24. Аграмада. 25. Шып. 26. «Дон». 27. Акр. 28. Алоэ. 29. Гама. 30. Грак. 31. Урач. 32. Украіна. 33. Сіг. 34. Алігарх. 35. Аракс. 38. Світа. 41. Ранец. 44. Такса. 52. Акупант. 53. «Зубр». 55. Лайка. 58. Апал. 61. Рэактар. 62. Аўрал. 65. Унеча. 66. Прастор. 67. Аканіца. 68. Чаранок. 69. Джамбул. 70. Ёўня. 71. Рэйн. 72. Інта. 73. Ара. 75. Арэх. 76. Скіф. 77. Рота. 79. Ага. 81. Моц. 83. Пасол. 85. Такыр. 87. Аха. 89. Імага. 90. Ліман. 92. Ірак. 93. Отс. 94. Бон. 95. Кара. 96. Аплот. 99. Валуй. 101. Ата. 103. Дамба. 106. Вёска. 109. Бра. 110. Ром. 112. Здор. 113. Урал. 114. Лазо. 116. Крк. 118. Клён. 119. Нерв. 120. Кума. 125. Граніца. 126. Плаціна. 127. Спінінг. 128. Лынькоў. 129. Пліца. 130. Астра. 131. Здароўе. 132. Кедр. 135. Ласка. 137. Гарт. 139. Драніца. 140. Скіба. 144. Смага. 147. Лямка. 151. Апорт. 154. Прамата. 156. Гну. 157. Каракас. 159. Псёл. 160. Лорд. 161. Гора. 162. Поні. 163. Цір. 164. Ява. 165. Мір. 166. Арлоўскі. 167. Ангідрыд. 168. Назарава. 169. Аэрасані. 171. Асадак. 172. Таран. 173. Камбайн. 174. Талаш. 175. Байкал. **Па вертыкалях:** 2. «Адплата». 3. Рытхэу. 5. Арапнік. 6. Калега. 7. Трыпалі. 8. Ту. 9. Рэнтген. 11. Сведка. 12. Батанік. 14. Фартух. 15. Адамчык. 16. «Звязда». 17. Кашара. 18. Маршал. 19. Кабета. 22. Адэса. 23. Анагр. 36. Ракіроўка. 37. Спарта. 39. Вар. 40. Тыл. 42. Ака. 43. Ева. 44. Трапак. 45. Статуэтка. 46. Стартэр. 47. Карбанат. 48. Чу. 49. Па. 50. Смеласць. 51.Ураднік. 53. Злак. 54. Браднік. 56. «Атака». 57. Качка. 59. Пантэра. 60. Лука. 63. Віка. 64. Арда. 74. Рух. 78. Пліта. 80. Атава. 81. Магар. 82. Слава. 84. Сал. 86. Рой. 87. Аса. 88. Аба. 89. Інд. 91. Мыс. 97. Падгрудак. 98. Абляпіха. 100. Леапард. 102. Тур. 104. Маёліка. 105. Амністыя. 107. Кампосцер. 108. Артапед. 111. Прылада. 115. Офіс. 116. Краса. 117. Касяк. 118. Клір. 121. Мінога. 122. Апак. 123. Агат. 124. «Ангара». 133. Ез. 134. Рым. 135. Луг. 136. «Ася». 137. Гук. 138. «Ра». 140. Стакан. 141. Імпульс. 142. Насціл. 143. Патрава. 145. Андарак. 146. Агляд. 147. Лузан. 148. Магазін. 149. Грамада. 150. Акурак. 152. Осіпава. 153. Тропік. 154. Пліска. 155. Алегра. 157. Какава. 158. Спаржа. 170. Об.

**Галаваломка (27 чэрвеня).** Ключык для разгадкі яе такі: у акружнасці пад літарамі ёсць затушаваныя клеткі і не затушаваныя. Пачынаючы з верхняй літары «С», трэба выпісаць адразу ўсе літары, пад якімі стаяць незатушаваныя клеткі, пасля — літары, пад якімі ёсць затушаваныя клеткі, а потым прачытаем прыказку: «Страчанага вясною дня не купіш».

# БЛІЗНЯТЫ, ВАМ ПАГРАЖАЕ АЛЕРГІЯ!

**Усходні гараскоп на наступны тыдзень**

# СКАРПІЁНЫ, ПРАЦУЙЦЕ — І ВЫ ДАЧАКАЕЦЕСЯ...

КАЗЯРОГ дачакаецца станоўчага разгляду сваёй справы ў нейкай урадавай структуры. Не хвалюйцеся, доўгачаканае вырашэнне не за гарамі. Многія вынашваюць планы паездкі за мяжу. Праявіце максімум абачлівасці і ў пачынанні новай справы. Поспехі будзе мець уся пішучая і тэлевізійная брація. У канцы тыдня давядзецца патраціцца на дарагі падарунак.

ВАДАЛЕЙ атрымае новыя дзелавыя прапановы. Ваш персанальны магнетызм і сіла волі дапамогуць іх рэалізаваць. На гэтым тыдні абавязкова атрымаеце вялікую суму. Грошы трэба ўкласці ў справу, якую можаце завяршыць на працягу паўмесяца. Чыноўнік прасунецца па службовай лесвіцы, альбо атрымае прыбаўку да зарплаты. Новае знаёмства выльецца ў моцную дружбу.

РЫБЫ рызыкуюць праявіць неўласцівыя ім нерашучасць і няўпэўненасць ва ўласных сілах. Можа аказацца пад пагрозай выкананне вамі сваіх дагаворных абавязацельстваў. Парада добрага сябра дапаможа выбрацца з кола цяжкасцяў. У адносінах з жонкай ці каханкай узнікаюць замарочкі. Высвятленне адносінаў справе не дапаможа. Памятайце, што маўчанне — гэта золата.

АВЕН можа ўпусціць грошы з-за ўмяшання сябра ці дзелавога партнёра. Ганіце прэч няпрошаных дарадчыкаў і дайце добрага выспятка таму, хто суе нос у вашы справы. На гэтым тыдні вам не трэба падпісваць ніякіх дакументаў і ўступаць у дагаворныя абавязацельствы. Служачага верагодна могуць запрасіць «на дыван»; канец тыдня пройдзе на высокай рамантычнай ноце.

ЦЯЛЬЦУ дараваны ўвогуле роўны, спакойны тыдзень. Стабільнасць — вось слова, якое вызначае вашы цяперашнія абставіны. Дайце выхад сваім творчым нахільнасцям. Магчыма, падпішаце прэстыжны кантракт. Атрымаеце пазыку на выгадных умовах. Прыслухайцеся да самаадчування, калі вам ад 35 да 50. Рашэнне аб уступленні ў шлюб будзе правільным.

БЛІЗНЯТЫ маюць шанц заключыць здзелку, якая прынясе хуткі даход. Укладзіце грошы ў каштоўныя паперы ці нерухомасць, бо ўзнікне вялікая спакуса патраціць іх на забавы. У канцы месяца вам практычна напэўна спатрэбяцца наяўныя. У тых, хто пакутуе ад алергіі, можа адбыцца раптоўны прыступ. Дама занята вырашэннем асабістых праблем.

РАКУ трэба будзе правільна вызначыць пункт прыкладання сіл. Уласцівая вам інтуіцыя падкажа аптымальны выбар. Планеты на вашым небасхіле размешчаны спрыяльна, яны і дапамогуць дасягнуць вызначанай мэты. Чакайце добрых вестак адносна работы ці кар'еры. Мужу і жонцы ці каханкам, якія пасварыліся паміж сабой, гарантуецца нармалізацыя адносінаў. Не забывайцеся рабіць адзін аднаму невялічкія падарункі.

ІЛЬВУ неабходна асабіста ўнікаць ва ўсе дробязі на рабоце, бо вам можа дорага каштаваць нядбайнасць партнёра. Па яго віне ажыццяўленне нейкага праекта можа застопарыцца. Давядзецца працаваць дапазна, каб выйсці з цяжкага становішча. Канкурэнт паспрабуе атрымаць доступ да вашай канфідэнцыяльнай інфармацыі. Пазбягайце стрэсавых сітуацый.

ДЗЕВА атрымае магчымасць кампенсаваць страты папярэдняга перыяду. Перыяд спрыяльны для пераходу на іншую работу. Служачаму давядзецца разблытваць нейкую непрыемную справу. Поспех стане трамплінам у ажыццяўленні лепшых кар'ерных амбіцый. Асабліва поспех будуць мець тыя, хто заняты ў турыстычных агенцтвах і паветраным транспарце. Магчыма замежная паездка.

ШАЛІ могуць трапіць у даволі пікантную сітуацыю. Магчыма, яна будзе звязана з нейкай новай справай у малазнаёмай вам сферы дзейнасці. Бізнесмен расшырыць сферу дзелавой актыўнасці. Адвакат выдатна выйграе судовы працэс. Правядзіце аперацыю з нерухомасцю. На гэтым тыдні альбо вы зробіце падарунак блізкаму чалавеку, альбо атрымаеце ад яго.

СКАРПІЁНУ, напэўна давядзецца мяняць коней на пераправе. На рабоце на вас узваляць дадатковыя абавязкі без належнага ўзнагароджання. Не наракайце, але папрацуйце — вы атрымаеце сваё крыху пазней. Практычна непазбежнымі застануцца хатнія праблемы, якія запатрабуюць вашага неадкладнага ўмяшання. Намячаецца тайны любоўны саюз.

СТРАЛЬЦУ трэба сканцэнтраваць усе свае намаганні на бягучай справе. Нават самыя заманлівыя дзелавыя прапановы давядзецца адхіліць, таму што пагоня за двума зайцамі мае пэўны зыход. Цяперашні тыдзень — ідэальны перыяд для пачатку сумеснага водпуску мужа і жонкі. Маладая дама мае павышаную верагоднасць зацяжараць. Многія пачуюць вясельны марш Мендэльсона..

**Сяргей БУЛАНЦАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## ВІНШАВАННІ

*Дарагую* **Соф'ю Іванаўну ГАРОШКА** *віншуем з 70-годдзем.*
Ад шчырага сэрца ў дзень юбілею
Жадаем радасці, светлай надзеі.
Хай з вамі будуць здароўе і сіла,
Жыццё няхай будзе доўгім, шчаслівым.

**Любячыя і паважаючыя цябе Мазжаравы.**

*Дарагую* **Наталлю Міхайлаўну ВЯРОЎКА** *з в. Таль Любанскага раёна сардэчна віншуем з 50-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці і доўгага шчаслівага жыцця.*

**Муж, дзеці, унукі.**

*Сардэчна віншуем дарагую бабулю* **Ганну Паўлаўну КАЎБАСКА** *з г. Івянца з 70-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, спакою і дабрабыту.*

**Дзевяць унукаў і праўнук,** *г. п. Фаніпаль.*

*Любага, дарагога мужа і татачку* **Пятра Іванавіча ПЯТРОВІЧА** *з г. Валожына віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці, шчасця і дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, сын, нявестка, дачка.**

*Віншуем дарагую сястрычку* **Таццяну Іванаўну АЛЯХНОВІЧ** *з в. Гоцк з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і поспехаў у вучобе.*

**Сёстры Ермаковы,** *в. Садавічы.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.745. Індэкс 63850.
Зак. № 4129.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12